Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

№ 24 (48)

СНЕЖАНЬ 1935 г.



АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Савецкая, 63, тэл. 22-412.

## На парозе новага года

1935 год увойдзе ў гісторыю нашай радзімы, як асабліва выдатны і радасны год. Гэты год даў небывалы дасюль творчы ўздым ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, у галіне навукі, культуры, мастацтваў. Гэты год з'яўляецца годам рэкордаў, пастаўленых лепшымі сынамі нашай радзімы ў паветры, на вадзе, на зямлі і пад зямлёй.

Усім памятны выдатны высотны палёт лётчыка тав. Кокінакі, які пабіў усе сусветныя рэкорды палётаў на самалёце ў вышыню. Самае высокае неба над нашай радзімай! Усім памятны шматлікія пераходы на конях, пеша, на веласіпедах, і сярод іх асабліва выдатным з'яўляецца бяспрыкладны ў гісторыі прабег туркменскіх коннікаў з Туркменістана ў Маскву.

Гэты год, які пачаўся адменай хлебных картак і зніжэннем цэн, быў годам бурнага росту заможнасці насельніцтва Савецкага Саюза, бурнага росту багацця прадуктаў і тавараў у нашай радзіме. Жыць стала лепш, жыць стала весялей.

Гэты год прайшоў пад знакам рэалізацыі лозунга таварыша Сталіна аб тым, што зараз кадры вырашаюць усё, пад знакам увагі да кожнага сумленнага работніка, пад знакам далейшага авалодання магутнай тэхнікай нашай прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Словы таварыша Сталіна аб людзях, кадрах, аб авалоданні тэхнікай і скарыстанні яе да дна сталі сцягам нашай барацьбы і далейшых перамог.

І як рэзультат усёй палітыкі нашай партыі, як рэзультат ажыццяўлення гістарычных указанняў вялікага правадыра і настаўніка аб авалоданні тэхнікай, нарадзіўся і ахапіў усю краіну магутны, сапраўды ўсенародны стаханаўскі рух—самая выдатная падзея мінулага года.

Справа, пачатая Стаханавым, Бусыгіным, Крываносам, Дземчэнка і іншымі і адразу падхопленая тысячамі іх паслядоўцаў, заключае ў сабе першыя крокі да сапраўды камуністычнай прадукцыйнасці працы, да ліквідацыі розніцы паміж фізічнай і разумовай працай, першыя крокі пераходу ад сацыялізма да камунізма.

Усе гэтыя выдатнейшыя сусветнага значэння перамогі, якія заваяваны ў 1935 годзе, падрыхтаваны і здзейснены на аснове ажыццяўлення генеральнай лініі нашай партыі па індустрыялізацыю і калектывізацыю краіны, у барацьбе з асколкамі разбітага, але недабітага класавага ворага, яны падрыхтаваны гадамі напружанай гераічнай барацьбы працоўнага народу нашай краіны пад сцягам Леніна—Сталіна.

Вялікі і знамянальны перамогі, дасягнутыя намі ў 1935 годзе. 1936 год будзе годам нашых далейшых, яшчэ большых перамог. Гэта будзе стаханаўскі год, год далейшага росту прадукцыйнасці працы, росту

-багаццяў нашай краіны, росту заможнасці і культуры нашага совецкага народу.

На парозе 1936 года ёсць над чым падумаць і работнікам друкаванага бальшэвіцкага слова. Не сакрэт, што і ў 1935 годзе значная частка газет адставала ад бурнага росту народнай гаспадаркі, ад бурнага росту культуры працоўных — чытачоў нашых газет.

Адставанне значнай часткі нашых беларускіх газет ад агульнага ўзроўню праблем, якія стаяць зараз перад прамысловасцю, транспартам і сельскай гаспадаркай, заключаецца перш за ўсё ў зусім слабай пастаноўцы на старонках газет пытанняў стаханаўскага руху. Не ўсе газетныя работнікі поўнасцю зразумелі велізарнейшае значэнне стаханаўскага руху, не ўсе зразумелі, што

«стаханаўскі рух прадстаўляе будучыню нашай індустрыі, што ён змяшчае ў сабе зярно будучага культурна-тэхнічнага ўздыму рабочага класа, што ён адкрывае нам той шлях, па якім толькі і можна дабіцца тых важнейшых паказальнікаў прадукцыйнасці працы, якія неабходны для пераходу ад соцыялізма да комунізма і знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай».

Вось вычарпальная фармулёўка сутнасці стаханаўскага руху, даная таварышам **Сталіным.** Зусім зразумела, што пастаноўка пытанняў стаханаўскага руху для нашых газет з'яўляецца справай першаступеннага значэння.

Мы ўжо адзначылі, што значная частка газет не спраўляецца з выкананнем гэтай задачы.

Вось што піша журнал ЦК ВКП(б) «Большевистская печать» у № 22:

«Ёсць нямала гарадскіх і абласных органаў друку, якія дэ-юрэ прызналі стаханаўскі рух, але ў газеце гэту выдатную з'яву, «якая ўвойдзе ў гісторыю нашага соцыялістычнага будаўніцтва, як адна з самых слаўных яе старонак» **(Сталін),** яны асвятляюць бесталанна. Чытаеш з дня ў дзень газетную жвачку і здаецца, што «тварцы» гэтых артыкулаў і заметак, рэдактары газет, якія змяшчаюць гэтыя малакроўныя, шэрыя матэрыялы, выконваюць нейкую абавязковую павіннасць. Даволі прагледзець матэрыялы, прысвечаныя стаханаўцам, скажам, у такой вялікай газеце, як беларуская газета «Рабочий», каб у гэтым навочна пераканацца».

Няма патрэбы гаварыць аб тым, наколькі правільна гэта ацэнка асвятлення пытанняў стаханаўскага руху ў газеце «Рабочий». Але справа ў тым, што газета «Рабочий» у даным выпадку зусім не з'яўляецца выключэннем. Прагледзіце нашы раённыя газеты. Вялікая частка іх абмяжавалася толькі тым, што ў двух-трох нумарах перадрукавала справаздачы аб першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў.

Гэта гаворыць аб тым, што частка рэдактароў успрыняла стаханаўскі рух як нейкую чарговую, хутка праходзячую кампанію, аб якой трэба памясціць у двух-трох нумарах і перайсці да наступнай кампаніі. Але так можа разважаць толькі мешчанін, абывацель, якому па яго прыродзе варожа ўсякая рэволюцыйная справа.

Другая частка рэдактароў і работнікаў газет палічылі, што стаханаўскі рух гэта справа буйных прамысловых цэнтраў, што ён непрымянімы ва ўмовах раёна, сельскай гаспадаркі. Жыццё цалкам разбіла і гэтыя гора-тэорыі. Бліскучы прыклад Марыі Дземчэнка і яе сяброўак, Пашы Ангелінай і яе трактарнай брыгады, сотні іншых прыкладаў паказалі, што калгасны лад пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі ўжо высунуў сотні і тысячы таленавітых гераічных барацьбітоў за высокі соцыялістычны ўраджай.

Справа цяпер у тым, каб гераічныя прыклад стаханаўцаў прамысловасці, транспарту і сельскай гаспадаркі пашырыць на ўсю краіну, дапамагчы стаханаўскаму руху зламаць усе перашкоды і рагаткі і прасякнуць ва ўсе вобласці і раёны, ва ўсе рашаючыя ўчасткі народнай гаспадаркі.

Істотным недахопам большасці тых газет, якія асвятляюць пытанні стаханаўскага руху, з'яўляецца аднабаковасць гэтага асвятлення. Газеты часта зводзяць усю справу к таму, што паведамляюць прозвішчы стаханаўцаў і лічбы іх выпрацоўкі. Між тым задача друку ў пытаннях стаханаўскага руху значна шырэйшая. Газеты павінны падняць усю суму пытанняў, звязаную з работай стаханаўцаў: пытанні норм, тэхні-

ных магутнасцей, яны павінны разбіваць спробы кансерватыўных элементаў устанавіць усемагчымыя прэдзелы, затармазіць, стрымаць далейшае папырэнне руху.

Гістарычная прамова таварыша **Сталіна** на нарадзе стаханаўцаў, рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) з вычарпальнай глыбінёй асвятляюць значэнне стаханаўскага руху і вызначаюць задачы партыйных і гаспадарчых арганізацый у справе далейшага разгортвання гэтага руху. Гэтыя дакументы з'яўляюцца баявой праграмай работы нашага друку.

Пленум ЦК ВКП(б) ва ўвесь рост паставіў пытанні перагляду існуючых норм, як не адпавядаючых сучаснаму стану тэхнікі і сучаснаму тэхнічнаму ўзбраенню рабочага класа. Пленум падкрэсліў неабходнасць упарадкавання усёй справы ўстанаўлення норм выпрацоўкі і норм тэхнічнай магутнасці машын і цэхаў. Рашэнні пленума абавязваюць партыйныя арганізацыі і гаспадарнікаў непасрэдна заняцца гэтымі важнейшымі пытаннямі.

Па-новаму ставіцца і справа далейшага тэхнічнага ўзбраення рабочага класа. Абавязваючы партарганізацыі і гаспадарнікаў «дапамагчы ўсім без выключэння стаханаўцам папоўніць свае тэхнічныя веды», пленум ЦК прызнаў неабходным «зрабіць абучэнне тэхнічнаму мінімуму ўсеагульным і абавязковым для ўсіх рабочых і работніц, падкрэсліваўшы гэту важнейшую справу задачы ўздыму культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы».

Такія грандыёзнейшыя задачы, пастаўленыя пленумам ЦК ВКП(б). У іх заключана сталінская праграма далейшай барацьбы на шляху пераходу ад соцыялізма да комунізма.

Указанні тав. **Сталіна,** рашэнні пленума ЦК ВКП(б) выразна паказваюць, наколькі цяпер ускладняецца справа кіраўніцтва вытворчасцю. Стаханаўцы, робячы ў прамысловасці рэволюцыю, пераводзяць прамысловасць у вышэйшы клас работы. А гэта ў сваю чаргу выклікае неабходнасць перавесці ў вышэйшы клас і кіраўніцтва вытворчасцю.

У святле гэтых грандыёзных задач якімі нікчэмнымі здаюцца разважанні пэўнай часткі газетных работнікаў аб тым, што цяпер, калі прамысловасць пачала працаваць значна лепш, можна аслабіць увагу друку да праблем вытворчасці, праблем кіраўніцтва вытворчасцю.

Таксама абстаіць справа і ў сельскай гаспадарцы.

Нельга адмаўляць таго, што калгасы і соўгасы за апошнія гады сталі працаваць значна лепш. Узрасла і будзе яшчэ хутчэй узрастаць заможнасць калгаснікаў. Але зроблены яшчэ толькі першыя крокі. Цяпер галоўнай праблемай сельскай гаспадаркі нашай краіны з'яўляецца праблема павышэння ўраджайнасці, развіцця жывёлагадоўлі. І лозунг тав. Сталіна аб давядзенні ў бліжэйшыя годы вытворчасці зерна ў СССР да 7—8 мільярдаў пудоў з'яўляецца зараз першачарговай задачай краіны. Ва ўмовах Беларусі гэта задача дапаўняецца барацьбой за рашучае павелічэнне ўраджаю льну, як вядучай культуры рэспублікі.

Пленум ЦК падвёў вынікі велізарнейшай работы, праведзенай нашай партыяй у 1935 годзе па ачыстцы сваіх радоў ад усяго варожага, прымазаўшагася, некомуністычнага. У наступаючым годзе партыя давядзе каласальную работу па праверцы партыйных дакументаў да канца і правядзе абмен партыйных дакументаў. Гэта важнейшае мерапрыемства дапаможа партыі пазбавіцца ад пасіву, ад тых людзей, якія не апраўдваюць высокае званне члена комуністычнай партыі.

Па рашэнню пленума з 1 чэрвеня 1936 года аднаўляецца прыём у кандыдаты партыі і перавод з кандыдатаў у члены партыі. Дзверы партыі будуць адчынены толькі для лепшых людзей нашай радзімы, якія стаяць блізка да партыі і беззаветна адданы яе справе.

Выконваючы рашэнні пленума ЦК ВКП(б), наша партыя ў наступаючым годзе будзе яшчэ напружаней змагацца за крыштальную чыстату сваіх радоў, за далейшае ўмацаванне ўсёй унутрыпартыйнай работы, павышэнне дысцыпліны членаў партыі, за далейшае марксісцка-ленінскае ўзбраенне кожнага члена і кандыдата партыі.

Такія галоўнейшыя праблемы, што стаяць перад нашай партыяй і краінай

на пароле 1936 года. І вялікі совецкі народ, натхнёны ідэямі геніяльнага **Сталіна**, смела і з поўнай упэўненасцю ў перамозе прыступае да іх вырашэння.

Задача нашых газет заключаецца ў тым, каб не цягнуцца ў хвасце падзей, а з настойлівасцю і запалам, уласцівымі большэвіцкаму друку, уключыцца ў гэту барацьбу.

Цяпер ужо нельга пісаць аб рабоце прадпрыемства і калгаса толькі на падставе агульных паказальнікаў іх работы. Гутарка ідзе аб глыбокім вывучэнні газетамі работы прадпрыемстваў і калгасаў. Гутарка ідзе аб глыбокім вывучэнні газетнымі работнікамі ўсёй сумы пытанняў, звязаных з работай данага прадпрыемства ці калгаса, вывучэння пытанняў планавання, норм, праектных магутнасцей, зарплаты і т. д. Без гэтага зараз нельга асвятляць работу прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Прадстаіць вялікая і крапатлівая вучоба і работнікі газет павінны пабольшэвіцку ўзяцца за гэту справу, калі яны хочуць, каб нашы газеты не адставалі ад жыцця, а ішлі на чале мас, арганізуючы масы.

Другая задача нашага друку вынікае з агульнага палітычнага і культурна-тэхнічнага росту працоўных. У нас у апошні час аб гэтым пішуць многія газеты, але далёка не ўсе рэдактары, якія часта адзначаюць рост культуры чытачоў, робяць сваю газету з улікам гэтага росту.

Прыгожае, цудоўнае жыццё народа Совецкай краіны! Кожны дзень нам прыносіць новыя перамогі, новыя радасці. Іх можна знайсці на кожным прадпрыемстве, у кожным калгасе, у кватэрах рабочых, калгаснікаў, служачых. Цудоўнымі макамі цвіце совецкая дзетвара, акружаная клопатамі пралетарскай дзяржавы. На небывалую да гэтуль вышыню ўзняліся клопаты краіны аб жанчыне, аб мацеры. Расце колькасць новых прыгожых школ, адкрываюцца новыя тэатры, кіно. З кожным днём расце колькасць талентаў, якія выходзяць з самай гушчы совецкага народу. Нараджаюцца і разносяцца па ўсёй краіне новыя песні, песні аб шчасці разняволенай працы. Свяшчэннае слова—соцыялізм, аб якім стагоддзямі марылі лепшыя сыны чалавецтва, стала рэчаіснасцю ў нашай радзіме.

Колькі яркага матэрыялу для газет кожны дзень дае наша жыццё і колькі газет усё яшчэ працуюць па-старому, запаўняючы свае старонкі шэрымі нуднымі матэрыяламі! У рэдкай раённай газеце можна знайсці яркі матэрыял аб росце заможнасці і культуры калгаснікаў. Рэдкія газеты пішуць пра такія выдатныя факты, як набыццё калгаснікамі літаратуры, як цяга насельніцтва да музыкі, тэатра, кіно, да вывучэння замежных моў і т. д. Амаль няма матэрыялу пра новыя звычаі, якія складаюцца ў сем'ях, у быце народу. Рэдкія газеты пішуць пра нашу цудоўную талантлівую дзетвару, пра нашу моладзь, пра нашых дзяўчат.

Шэрымі і нуднымі многія нашы газеты робіць нежаданне іх рэдактароў перабудаваць работу, нежаданне падумаць над тым, як лепш зрабіць газету, які матэрыял арганізаваць, як яго падаць. Непаваротлівасць, баязлівасць да новых тэм, да новых слоў, выразаў, шаблон—вось чым хварэюць яшчэ многія газетныя работнікі.

Аб усім гэтым трэба напомніць работнікам нашых газет на пароге новага года. Няма сумнення, што ў наступаючым 1936 годзе совецкі народ атрымае пад кіраўніцтвам нашай партыі Леніна—Сталіна яшчэ большыя перамогі. Жыць стане яшчэ лепш, яшчэ весялей.

І трэба спадзявацца, што большэвіцкі друк Совецкай Беларусі, раўняючыся на флагмана большэвіцкіх газет— ленінскую «Праўду», у 1936 годзе падцягне свае адстаючыя ўчасткі і стане яшчэ мацнейшай і яшчэ астрэйшай зброяй партыі ў барацьбе за поўную перамогу комунізма.

За работу, таварышы!

## Агляд друку

# Важнейшы ўчастак работы

У сваёй прамове на нарадзе перадавых камбайнераў і камбайнерак 1 снежня 1935 года тав. **Сталін** сказаў:

**«Мы збіраем у гэтым годзе больш пяці з паловай мільярдаў пудоў зярна. Гэтага ў поўнай меры хапае для таго, каб удосталь накарміць насельніцтва і адкласці яшчэ дастатковыя запасы, неабходныя для ўсякіх непрадбачаных выпадкаў. Гэта, зразумела, не дрэнна для сёнешняга дня. Але мы не можам абмяжоўвацца толькі сёнешнім днём... Мы павінны ўжо цяпер рыхтавацца да таго, каб давесці ў бліжэйшым будучым, гадоў праз тры-чатыры, штогодную вытворчасць хлеба да 7—8 мільярдаў пудоў».**

Словы тав. Сталіна пракаціліся па ўсёй краіне. Яны ўзнялі мільённыя масы калгаснікаў і калгасніц на яшчэ больш настойлівую бальшэвіцкую барацьбу за высокі сацыялістычны ўраджай, за далейшы ўздым калгаснай вытворчасці. У адказ на прамову правадыра калгаснікі бяруць на сябе канкрэтныя абавязацельствы па павышэнню ўраджайнасці для таго, каб давесці штогодную вытворчасць хлеба да 7—8 мільярдаў пудоў.

Але мала ўзяць добрыя самаабавязацельствы, трэба дабіцца, каб яны былі выкананы. Трэба правесці рад агратэхнічных мерапрыемстваў для таго, каб ажыццявіць лозунг правадыра.

Зусім зразумела, што раённыя газеты павінны адыграць велізарнейшую ролю ў барацьбе за высокі ўраджай.

**Рагачоўская** газета **«Комунар»** як быццам-бы і нядрэнна выконвае гэту задачу. Газета хутка падхапіла ўказанне тав. Сталіна аб павелічэнні штогоднай вытворчасці хлеба да 7—8 мільярдаў пудоў. Пасля прамовы, якая змешчана ў «Комунары» 6 снежня, у наступных нумарах газеты мы знаходзім арганізаваны рэдакцыяй матэрыял па пытанню ўзняцця ўраджайнасці. Праз газету калгаснікі расказваюць, якія яны бяруць на сябе абавязацельствы ў адказ на прамову правадыра.

Вось, напрыклад, старшыня калгаса «Вална», Крушынаўскага сельсовета, тав Пісараў расказвае аб тым што ў яго калгасе арганізован збор попелу, што

**«кожны калгаснік абавязаўся сабраць не менш 3 цэнтнераў попелу. Усяго ў нас 92 гаспадаркі і попелу будзе сабрана 276 цэнтнераў».**

Але гэтым калгаснікі не абмяжоўваюцца. Таварыш Пісараў гаворыць, што

**«вельмі каштоўны гной атрымоўваецца з торфу, калі яго ўжываць на подсціл. Мы маркуем загатовіць 100 тон торфу».**

У нумары за 11 снежня газета расказвае аб тым, што калгаснікі арцелі «Чырвоны молат», Забалоцкага сельсовета,

**«узялі на сябе абавязак у два разы падняць ураджайнасць палёў. Захоўваць гной, купіць больш угнаення, сабраць па 2 цэнтнеры попелу з гаспадаркі, каб у наступным годзе яшчэ больш падняць вагу працадня».**

Усё гэта газета «Комунар» цесна ўвязвае з падрыхтоўкай да веснавой сяўбы. Газета правільна піша ў рэдакцыйным артыкуле ў нумары за 18 снежня, што

**«падрыхтоўка да сяўбы — важнейшае звяно ў барацьбе за высокі ўраджай. Трэба ўжо зараз падрыхтаваць гатунковае, ачышчанае насенне, утвараць рамонт інвентару, замацаваць за брыгадамі вытворчыя ўчасткі і забяспечыць іх неабходнымі сельскагаспадарчымі машынамі і прыладамі».**

На старонках «Комунара» можна знайсці каштоўныя парады агранома аб тым, як лепш захаваць насенне. Напрыклад, у гэтым-жа нумары за 18 снежня змешчан артыкул «Як папярэдзіць псаванне насення». У артыкуле папулярнай мовай даецца рад практычных указанняў аб

тым, што трэба на працягу зімы рабіць для таго, каб захаваць у добрым стане насенне. Тут указваюцца самыя прасцейшыя спосабы дагляду насення.

Заслугоўвае ўвагі даная ў газеце старонка за 23 снежня. Пад агульнай шапкай «За 7—8 мільярдаў пудоў хлеба» зьмешчаны выступленні перадавых калгаснікаў і спецыялістаў сельскай гаспадаркі на нарадзе, якая адбылася на Турскай даследчай станцыі па пытанню ўздыму ўраджайнасці.

Вось, напрыклад, старшыня калгаса «Чырвоны гай», Свяцкага сельсовета, т. **Цэлікаў** гаворыць:

> **«Да наступнага года я рыхтуюся зараз. З торфу кампост раблю і ўжываю яго на подсціл. Пільна буду сачыць за азімымі. З'явіцца вясной корка на азімых — знішчу яе. Для гэтага можна зрабіць простую прыладу: у звычайны драўляны каток набіць цвікоў. Перад баранаваннем унясу ўгнаенне».**

А вось указанні навуковага работніка даследчай станцыі тав. **Алёхіна.** Ён гаворыць, што да гэтага часу ў Рагачоўскім раёне

> **«фасфарытная мука не скарыстоўвалася разам з калійнымі і азотнымі ўгнаеннямі (а гэта трэба рабіць абавязкова), яе адпускалі калгасам, дзе ёсць выключна пясчаная глеба. Які эфект ад такога ўжывання ўгнаення? У нашым раёне фасфарытную муку абавязкова трэба ўносіць на кіслыя глебы, папярэдне змяшаўшы яе з сільвінітам».**

Усё гэта, вядома, добра. Добра, што газета паказвае на сваіх старонках, як калгаснікі і спецыялісты сельскай гаспадаркі рыхтуюцца да сустрэчы вясны. Але ўсё-ж у газеце «Комунар» пераважна друкуюцца самаабавязацельствы і вельмі мала практычнага матэрыялу аб павышэнні ўраджайнасці.

Чаму-б, скажам, не даць у газеце разгорнуты паказ перадавога калгаса, або перадавой брыгады, якая ўжо ў 1935 годзе дабілася больш высокага ўраджаю, чым астатнія калгасы? Чаму не даць больш падрабязнае выступленне таго-ж самага навуковага работніка тав. Алёхіна аб тым, які-ж усё такі дае эфект ва ўзняцці ўраджайнасці на кіслых глебах фасфарытная мука, змешаная з сільвінітам? Чаму нельга прывесці ў гэтай справе адпаведныя лічбы, жывыя факты?

Ясна, што ўсё гэта можна і трэба зрабіць. А вось таварышы з рэдакцыі газеты «Комунар» не здагадаліся зрабіць гэта. Патрэбен шырокі паказ жывых людзей—майстраў высокага ўраджаю і на гэтым паказе мабілізаваць масы калгаснікаў і калгасніц на барацьбу за высокі ўраджай, за ажыццяўленне лозунга тав. Сталіна — даць у бліжэйшыя гады 7—8 мільярдаў пудоў зярна штогод.

Ні ў якім разе нельга забываць такога пытання, як падрыхтоўка кадраў. Трэба цвёрда памятаць, што **«галоўнае цяпер у тым, каб налегчы на кадры, абучыць кадры, дапамагчы адстаючым асвоіць тэхніку, вырошчваць з дня ў дзень людзей, здольных асвоіць тэхніку і пагнаць яе наперад» (Сталін).**

# „На сходах выбралі комсоргаў“

Зараз праходзяць справаздачна-перавыбарчыя сходы комсамольскіх арганізацый. Упершыню пасля перабудовы работы ЛКСМ на комсамольскіх сходах заслухоўваюцца справаздачы пярвічных арганізатараў комсамола — комсоргаў. Тысячы комсамольцаў, якія аўладалі навукай і тэхнікай, па прыкладу такіх комсамольцаў-герояў, як Крываноc, Кур'янаў, Вінаградавы, сталі арганізатарамі стаханаўскага руху, расказваюць пра сваю работу на вытворчасці.

Многія яркія прыклады з работы пажыцця комсамола за справаздачны перыяд пацвярджаюць, што комсамол пабольшэвіцку змагаецца за ажыццяўленне дырэктыў партыі і ўказанняў правадыра таварыша **Сталіна.**

Задача нашых шматтыражак — паказаць першыя крокі выхаваўчай работы комсамола пасля яго перабудовы.

А што мы маем на справе?

Возьмем шматтыражку **«За здаровы вагон»** (рэдактар Завялевіч) завода імя Мяснікова. У нумары за 20 снежня газета змяшчае цэлую старонку, прысвечаную справаздачна-перавыбарчай кампаніі ЛКСМ. Перадавы артыкул, каляндарны план камітэта і паведамленне аб скліканні X з'езда комсамола занялі ўсю комсамольскую старонку. У каляндарным плане газета паведамляе комсамольцаў і моладзь аб тым, што 16 снежня адбудзецца пасяджэнне камітэта комсамола, а 16—17 снежня —групавыя комсамольскія сходы, на якіх будзе прапрацавана пісьмо ЦК ВЛКСМ. Газета спазнілася з паведамленнем. Замест таго, каб 20 снежня даць ужо інфармацыю, як прайшлі комсамольскія сходы па прапрацоўцы пісьма ЦК ВЛКСМ, газета паведаміла толькі заднім чыслом аб скліканні сходаў.



Комсамольская група менскай швэйнай фабрыкі мя Крупскай за палітвучобай.

А ў перадавым артыкуле шматтыражка піша:

**«Справаздачна-перавыбарчая кампанія павінна паскорыць перабудову, трэба крытычна праглядзець пастаноўку палітычнай вучобы ў нас, на заводзе, якасць якой яшчэ нізкая».**

Весь і ўсё. Хто-ж перашкаджае рэдактару газеты крытычна праглядзець пастаноўку палітвучобы і змясціць у шматтыражцы падрабязны матэрыял, які-б вучыў комсамол, як арганізаваць палітвучобу?

Далей пішацца ў перадавым:

**«Што можа ў сваёй справаздачы сказаць групорг групы пад'ёмкі тав. Лапідус, які навучаецца ў палітшколе Баруск Іван, які сістэматычна прапушчае вучобу, але-ж у гэтай групе ёсць такія прыкладныя комсамольцы, як тав. Рак, які добра вучыцца і працуе над сабой, з якога можна браць прыклад».**

Прачытаўшы гэтыя радкі, вельмі цяжка ўявіць, што газета хацела сказаць. А ў наступным абзацы мы чытаем:

**«Неабходна работаць упарта, энергічна, для рашучага палепшання работы нашай арганізацыі, каб прыйсці да з'езду з рашаючымі поспехамі ў справе перабудовы».**

«Упарта», «энергічна», «рашуча»... Хіба-ж можна гэта назваць практычным указаннем у рабоце комсамола? Гэта нішто іншае, як бескарысная трэскатня.

25 снежня выходзіць наступны нумар газеты «За здаровы вагон». У ім змяшчаецца ўжо матэрыял аб ходзе справаздачна-перавыбарчай кампаніі. Аб чым-жа піша газета ў сваіх 8-мі карэспандэнцыях?

**«22 снежня адбыліся справаздачна-перавыбарчыя сходы комсамольскіх груп. Яўка на справаздачныя сходы была 100-процантная. Комсамольцы прынялі актыўны ўдзел у абгаварэнні работы комсамольскіх груп, недахопаў у рабоце. Уносілі свае прапановы... На сходах выбралі новых комсоргаў».**

І далей пішацца, што

**«па прыкладу гэтых груп павінны раўняцца ўсе комсамольскія групы завода».**

Што-ж тут ёсць паказальнага? Прышлі на сход, абгаварылі работу, унеслі прапановы і выбралі комсоргаў.

Чаму газета не паказала, як комсамольцы зразумелі свае задачы, каго імена яны выбралі комсоргамі, якія практычныя прапановы ўносіліся комсамольцамі на гэтых перавыбарчых сходах.

А ў заметцы «Становішча палітвучобы ў нашай групе» газета піша:

**«Палітвучоба знаходзіцца на нізкім узроўні, комсамольцы Жакевіч, Губкін не наведваюць палітвучобу, Кудашкевіч, Якімовіч наведваюць з перабоямі. Якасць вучобы нізкая, заняткамі ніхто не цікавіцца».**

Голае канстатаванне фактаў. Газета не ўскрыла і не паказала прычын зрыву палітвучобы. Нарэшце, справа не толькі ў акуратным наведванні. Іншы комсамолец акуратна наведвае палітзаняткі, але вельмі дрэнна ўсвойвае. Трэба паказаць, чаму імена дрэнная ўсваяемасць комсамольцаў, мабыць кіраўнік не задавольвае, або падручнікаў не хапае, ці яшчэ што перашкаджае.

Рабкоры—комсамольцы Лайтхман і Надабед уносяць праз газету прапанову, каб комсамольцы-стаханаўцы абменьваліся вопытам сваёй работы з астатняй моладдзю. Здавалася-б, што гэту прапанову павінна была падхапіць у першую чаргу сама газета. Аднак, яна гэтага не зрабіла.

Трэба сказаць, што шматтыражка «За здаровы вагон» вельмі мала дапамагла комсамольскай арганізацыі ў правядзенні справаздачна-перавыбарчай кампаніі. Шматтыражка не паказала тых комсамольцаў, якія ўзорна арганізоўваюць свой рабочы дзень, якія чытаюць, вучацца, павышаюць свой палітычны ўзровень, якія змагаюцца за ажыццяўленне ўказання сакратара ЦК ВЛКСМ тав. **Косарэва** аб тым, што наша саюзная моладзь павінна стаць «самай перадавой па адукацыі і культуры».

У пісьме ЦК ВЛКСМ гаворыцца, што **«ВЛКСМ павінен выхаваць з моладзі кваліфікаваныя, у дасканаласці ўладаючыя тэхнікай сваёй справы, высокакультурныя кадры спецыялістаў для ўсіх галін соцыялістычнага будаўніцтва. ВЛКСМ павінен выхоўваць з моладзі кадры будаўнікоў, барацьбітоў за справу комунізма, ідэалагічна стойкіх, адданых справе Леніна—Сталіна, людзей, для якіх «ясныасць мэты, настойлівасць у справе дасягнення мэты і цвёрдасць характару, ламаючага ўсе і ўсякія перашкоды» (Сталін) з'яўляецца іх галоўнай якасцю. Барацьба за комуністычнае выхаванне моладзі і дзяцей складае цэнтральную задачу ленінскага комсамола».**

Гэта ўказанне павінны цвёрда запамятаць фабрычна-заводскія газеты. Тут вялікае поле дзейнасці. Работа комсамольскіх палітшкол і іх кіраўнікоў, арганізацыя чыткі газет і літаратуры, праверка выканання рашэнняў, паказ работы стаханаўцаў — усё гэта пытанні, міма якіх не можа прайсці ні адна газета. Трэба памятаць, што вырошчванне маладых кадраў, выхоўванне нашай моладзі — адказнейшая задача кожнай фабрычна-заводскай газеты. Весь чаму пытанням комсамольскай работы павінна быць адведзена на старонках шматтыражкі пачэснае месца.

# НЯМА ПАКАЗУ ЖЫВОГА ЧАЛАВЕКА

Газета **«За ўдарны свінасоўгас»**— орган палітаддзела і рабочкома свінагадоўчага соўгаса імя Кірава, Чырвонаслабодскага раёна—прарабіла немалую работу ў барацьбе за соцыялістычную свінагадоўлю, за выкананне соўгасам дзяржаўных заданняў.

Асабліва вялікую ўвагу газета аддае выкананню плана здачы дзяржаве мяса. Аб гэтым амаль у кожным нумары змяшчаецца матэрыял. Газета правільна робіць, калі ўвесь матэрыял аб барацьбе са стратамі на свінаферме, аб доглядзе свінного пагалоўя цесна ўвязвае з асноўнай і галоўнейшай задачай соўгаса—гэта з выкананнем дзяржаўнага задання па мясаздачы.

Выкананне плана мясаздачы соўгасам імя Кірава ішло дрэнна. Асобныя работнікі з дырэкцыі соўгаса імкнуліся «даказаць», што Свінаводтрэстам позна спушчан у соўгас план, таму дрэнна ідзе і выкананне плана.

Ясна, што такія разважанні не мабілізавалі работнікаў свінафермы на барацьбу за выкананне плана, а на-

-дварот, супакойвалі іх. Газета ў гэтай справе ўзяла зусім правільную лінію. Яна яшчэ ў жніўні падняла на сваіх старонках трывогу.

У нумары за 17 жніўня газета востра ставіць пытанне аб тым, што план мясаздачы ставіцца пад пагрозу зрыву. У артыкуле «Усе сілы на выкананне гадавога плана мясаздачы» газета прыводзіць рад фактаў дрэнных адносін асобных свінароў да сваіх абавязкаў, прыводзяцца канкрэтныя факты дрэннага догляду маладняка і т. д.

У гэтым-жа артыкуле газета прыводзіць прыклады лепшых ударнікаў сацыялістычнай свінагадоўлі. Вось, напрыклад, свінар

«Леванцэвіч па сваёй групе дае сутачны прывес па бекону 800 грам, замест мінулай працы ў гэтай групе Смаленца і другіх, якія давалі прывес 200—300 грам у суткі».

У нумары за 23 верасня газета зноў напамінае кіраўніцтву і ўсяму калектыву рабочых і ІТР соўгаса аб тым, што справа з выкананнем плана абстаіць дрэнна.

Газета піша, што

«галоўную ролю ў забеспячэнні плана мясаздачы адыгрываюць свінары адкормачнай брыгады на чале з брыгадзірам Казленям».

Але не толькі адкормачная брыгада можа забяспечыць поспех выканання плана.

«Уся грамадскасць соўгаса, партыйная арганізацыя павінны разам з адкормачнай брыгадай удзельнічаць у фарсіраванні адкорму, што забяспечыць выкананне гадавога плана мясаздачы. Бо ніхто нам не дазволіць у гэтым годзе зрываць план мясаздачы хоць на адзін грам».

Газета «За ўдарны свінасоўгас» часта друкуе на сваіх старонках матэрыял рэйдавых брыгад па праверцы ўтрымання маладняка, становішча скотнага двара, аб правільнасці налічэння зарплаты рабочым і т. д. Дрэнна толькі тое, што газета друкуе гатовы, паднесены ёй матэрыял рэйдаў. Сама-ж газета не з'яўляецца ініцыятарам арганізацыі рэйдаў. Усю работу па арганізацыі і правядзенню рэйдаў праводзіць палітаддзел і рабочком. Горш таго: Ва многіх выпадках газета не мабілізуе нават для правядзення рэйдаў сваіх рабкораў.

Але не толькі ў гэтым недахоп газеты. Газета шмат упускае такіх пытанняў, за якія ніяк нельга ёй дараваць.

Узяць, скажам, такое важнае пытанне, як партыйнае будаўніцтва. І партыйная, і комсамольская арганізацыі соўгаса праводзяць вялікую работу, комуністы і комсамольцы паказваюць прыклады ў рабоце, з'яўляюцца ўдарнікамі свінагадоўлі. Нядрэнна праходзіць партыйная вучоба. А вось у газеце вы нічога не знойдзеце аб гэтым. Ні ў адным нумары газеты вы не знойдзеце паказу комуніста, або комсамольца на вытворчасці.

Наогул надзвычай дрэнна абстаіць справа з паказам жывога чалавека ў газеце «За ўдарны свінасоўгас».

Узяць хоць-бы таго-ж самага **Леванцэвіча,** які па сваёй групе **дабіўся сутачнага прыросту па бекону на 800 грам.** У агульным артыкуле газета мімаходам толькі ўказала аб дасягненнях тав. Леванцэвіча. А чаму-б не даць было аб гэтым жывы, разгорнуты матэрыял? Чаму-б, скажам, не паказаць у газеце работу тав. Леванцэвіча, паказаць, якім чынам дабіўся ён поспехаў у сваёй рабоце?

Ясна, што газета павінна была гэта зрабіць, павінна была на прыкладзе т. Леванцэвіча навучыць астатніх рабочых, як трэба змагацца за адкорм свіней.

Або ўзяць трактарыста **Камяк Фаму.** Гэты таварыш з'яўляецца лепшым трактарыстам соўгаса. Ён заўсёды перавыконвае нормы выпрацоўкі і шмат эканоміць гаручага. Трактар, на якім Камяк працуе ўжо шэсць год, выглядае як быццам ён толькі што выпушчан з завода,—вычышчан, змазан...

У часе зябліва Камяк замест устаноўленай нормы 2,5 га наворваў да 12 га ў дзень пры высокай якасці ворыва. На кожным гектары т. Камяк эканоміў па 5—6 кілограм гаручага.

За апошні месяц палявых работ тав. Камяк зарабіў 553 руб. Многія рабочыя соўгаса, нават некаторыя трактарысты, здзіўляліся:

— Якім гэта чынам Камяк Фама зарабіў за адзін месяц столькі грошай?!..

Газета «За ўдарны свінасоўгас» не падхапіла ўзорны прыклад трактарыста Камяка, не дала на сваіх старонках разгорнутага паказу таго, якім чынам Камяк дабіўся перавыканання норм выпрацоўкі і эканоміі гаручага.

Газета абмежавалася толькі кароткім і агульным выступленнем самога трактарыста. Наогул газета абыходзіць маўчанні пытанні разгортвання стаханаўскага руху ў соўгасе.

**Зусім не займаецца газета «За ўдарны свінасоўгас» работай са сваімі рабкорамі.** Адсутнічае кіраўніцтва брыгаднымі і цэхавымі насценгазетамі. Газета ні разу не правяла нарады рабкораў і рэдкалегій насценгазет.

**Такія адносіны газеты «За ўдарны свінасоўгас» да нізавога друку прывялі** да таго, што ў асобных рабочых соўгаса, нават у некаторых рабкораў з'явілася няправільная думка: «Ці не лішнія яны ў нас насценгазеты, паколькі ёсць друкаваная газета». Адсюль і нерэгулярны выхад насценгазет і слабы ўдзел рабочых соўгаса ў насценным друку.

Задача газеты «За ўдарны свінасоўгас» і кожнай соўгаснай і палітаддзельскай газеты—павесці такую работу сярод рабочых і ў першую чаргу сярод сваіх рабкораў, каб узмацніць насценны друк, каб рабочыя зразумелі, што насценгазета ў брыгадзе, у цэху можа і павінна адыграць вялікую ролю ў выкананні планавых заданняў.

# Не газета, а шэры бяззубы бюлетэнь

Раніцой у габінеце намесніка рэдактара **механскай газеты «Сталінскі заклік» тав. Магарыла** сабраліся ўсе рэдакцыйныя работнікі. Магарыл хваляецца. Ён абводзіць вачыма закіданы паперамі і заметкамі стол. Некалькі разоў перакідвае з аднаго месца на другое паперы і папкі.

Гэта ён шукае больш-менш падыходзячы матэрыял для чарговага нумару газеты.

Газета «Сталінскі заклік» жыве выключна самацёчным матэрыялам. Работнікі рэдакцыі не выязджаюць у калгасы для арганізацыі матэрыялу, яны сядзяць і чакаюць, пакуль не прышле хто-небудзь заметку.

Селькоры вельмі мала пішуць у газету. Дый селькораў усяго толькі 10—12 чалавек мае механская газета. А як-жа могуць пісаць у газету селькоры, калі на стале ў намесніка рэдактара Магарыла больш за месяц ляжаць каля 50 селькораўскіх допісаў без усякага руху.

Рэдакцыя не пасылае нават допісы на расследванне.

Паўстае пытанне, што-ж робіць намеснік адказнага рэдактара з тымі допісамі, якіх ён не змяшчае і не пасылае на расследванне? Магарыл робіць вельмі проста: на допіс кладзецца рэзалюцыя «да ведама», гэта значыць у архіў.

Мы зазірнулі ў архіў. Там знайшлі ўжо апрацаваныя матэрыялы селькораў аб кулацкіх элементах у калгасах, якія зрываюць выкананне плана здачы ільновалакна, аб жывёлагадоўчых фермах, аб дрэнным доглядзе коней і т. д. Усе гэтыя допісы можна было апрацаваць і даць у газету. Але тут справа пастаўлена так, што допісы, якія цяжка паддаюцца апрацоўцы, перадаюцца ў архіў.

Прагледзеўшы камплект газеты «Сталінскі заклік» можна смела сказаць, што ў рэдакцыі працуюць людзі, не аўладаўшыя тэхнікай газетнай справы. Апрача тэлеграм, спісаў гонару, спісаў ганьбы, чорных дошак, розных пастаноў і часамі дробных заметак нічога не знойдзеш ў газеце.

Часамі газета займаецца друкаваннем сваіх уласных тэлеграм зрыўшчыкам дзяржаўных заданняў. Вось, напрыклад, у нумары за 6 снежня мы чытаем тэлеграму наступнага зместу:

**«Молнія. Тэлеграма. Старшыні калгаса «Ленінскі шлях» Кузьмінскага сельсовета, Доўгапольскаму. Вы сваёй халатнасцю сарвалі ільнозагатоўкі ў вашым калгасе, выканаўшы толькі 33 проц. плана, не гледзячы на наяўнасць многа ільноапрацоўчых машын і ў дастатковай колькасці рабочай сілы. Рэдакцыя газеты «Сталінскі заклік» чакае, што вы забяспечыце ў бліжэйшыя дні выкананне плана».**

Што можа даць такая тэлеграма? Хіба-ж так трэба адносіцца да зрыўшчыка ільнозагатовак — Доўгапольскага, выключанага з партыі, як кулака?

Або ўзяць змешчаны ў гэтым-жа нумары на другой старонцы вялікі допіс пад загалоўкам «Ніякай літасці класаваму ворагу — падпальшчыку Ступакову». У допісе ўказана, што

**«з 26 па 27 лістапада кулак Ступакоў падпаліў скотны двор калгаса «Кастрычнік», Газбінскага сельсовета. Страты ад пажару складаюць каля 50 тысяч рублёў».**

Газета ў даным выпадку, замест патрабавання сурова пакараць кулака Ступакова, дае ад рэдакцыі наступныя радкі:

**«Просім усіх калгаснікаў і працоўных раёна даслаць свае водгукі адносна данага допісу ў рэдакцыю «Сталінскі заклік».**

Гэта нішто іншае, як палітычная блізарукасць работнікаў рэдакцыі і намесніка адказнага рэдактара тав. Магарыла, які падпісаў гэты нумар газеты. Аб палітычнай слепаце кіраўніцтва рэдакцыі сведчыць і тое, што газета, прыводзячы контррэволюцыйнае выступленне класавага ворага, фактычна прапагандуе гэтае выступленне.

Асноўная бяда ў тым, што работнікі рэдакцыі вельмі слаба ведаюць газетную справу. Праўда, у рэдакцыі працуюць два работнікі, скончыўшыя ў гэтым годзе магілеўскі газетны тэхнікум. Аднак, яны павінны яшчэ вучыцца на практычнай рабоце, ім павінна быць аказана дапамога. Ці маюць яны гэту дапамогу ў рэдакцыі? Вось што гаворыць літработнік тав. Рахіль **Кантарава.**

— Магілеўскі газетны тэхнікум я скончыла ў гэтым годзе. Прышла ў рэдакцыю з такой думкай, што я атрымаю ад кіраўнікоў дапамогу ў далейшай практычнай рабоце. Але гэтага я не атрымала. Бываюць такія моманты, калі намеснік адказнага рэдактара т. Магарыл, замест парады, замест таго, каб паказаць, як лепш апрацоўваць пісьмо, хапае ў мяне апрацаванае пісьмо і пачынае лаяцца.

Ясна, што такія грубыя адносіны рэдактара да супрацоўнікаў рэдакцыі не могуць спрыяць паляпшэнню работы газеты. Як відаць, Магарыл забывае неаднаразовыя ўказанні тав. Сталіна аб старанным і клапатлівым вырошчванні людзей, кадраў, аб усямернай дапамозе кожнаму растучаму работніку.

Адсюль і такія дрэнныя вынікі работы газеты за час рэдагавання яе Магарылам (рэдактар на курсах у Менску).

Рэдакцыя газеты «Сталінскі заклік» павінна перабудаваць сваю работу.

Сувязь з масамі, шырока разгорнутая работа з рабселькорамі, нястомная работа ўнутры рэдакцыі па павышэнню дзелавой кваліфікацыі работнікаў, клапатлівая дапамога кожнаму супрацоўніку з боку кіраўніцтва газеты — вось што забяспечыць вам, таварышы з рэдакцыі газеты «Сталінскі заклік», поспех у рабоце.

# Мясцовая інфармацыя ў раённай газеце

★ ★ ★ **МІХАЙЛАЎ.** ★ ★ ★

Безумоўна, у галіне мясцовай інфармацыі ў раённым друку за апошні час ёсць некаторы зрух. Да дваццаці пяці газет больш-менш сістэматычна змяшчаюць на сваіх старонках розныя навіны па раёну і іншы мясцовы інфармацыйны матэрыял. Рагачоўская, аршанская, горацкая, барысаўская, бабруйская і некаторыя іншыя газеты мясцовай інфармацыі аддаюць значную ўвагу.

Газеты паведамляюць аб самых рознастайных падзеях і навінах у сваіх раёнах. У соўгасе Лемніца арганізаваўся гурток па вывучэнню нямецкай мовы (**«Калгаснік Талачыншчыны»**). Карова «Слава» на ферме транспартнай гаспадаркі «Большэвік» дала сёлета рэкордны ўдой малака — 4139 літраў (аршанская газета **«Ленінскі прызыў»**). Чашніцкая газета **«Шлях сацыялізма»** паведамляе аб самаафярным учынку калгасніцы Рэпятнёвай, якая затушыла гарэўшую трасту і з рызыкай для жыцця выратавала калгаснае дабро. З месяца ў месяц, як піша бабруйская газета **«Комуніст»**, растуць сродкі на бягучых рахунках калгасаў у Дзяржаўным банку. Аб высокіх ураджаях і багатым працадні, талентах з народу, тэлефанізацыі і электрыфікацыі вёскі, адкрыцці і росце новых культурна-бытавых устаноў, — аб усім гэтым піша раённы друк.

Мы прыводзім гэта пералічэнне для таго, каб паказаць якое багацце і рознастайнасць тэм для мясцовай інфармацыі прадстаўляе сабою наша шчаслівае і заможнае жыццё. Возьмем адзін з звычайных апошніх нумароў «Чырвонай Тураўшчыны», якая нядрэнна падае інфармацыю. У гэтым нумары ад 5 снежня газета паведамляе ў навінах па раёну аб выкананні плана дэцэнтралізаваных загатовак. Брыгада калгаса «Новае жыццё» выканала план лоўлі рыбы. Калгасніца Кульвінская выйграла 175 руб. па аблігацыях пазыкі. Брыгады мясцовай шавецкай арцелі выехалі ў калгасы для рамонту абутку калгаснікаў і т. д.

Аднак, больш паловы раённых газет да гэтага часу не падаюць на сваіх старонках мясцовай інфармацыі. Трэба адзначыць, што, як гэта ні дзіўна, слаба пастаўлена інфармацыя ў гомельскай **«Палескай праўдзе»**, жлобінскай газеце. Некаторыя газеты аб тых ці іншых навінах у сваіх раёнах, не гаворачы ўжо аб іх чытачах, даведваюцца з цэнтральнага друку. Яркі прыклад можна прывесці газету **«Калгаснік Петрыкоўшчыны»**.

2 снежня ў «Звяздзе» была змешчана заметка аб пажары ў в. Жахавічы, Петрыкоўскага раёна. Дзякуючы самаадданай рабоце калгаснікаў была цалкам выратавана агульнакалгасная маемасць і вялікая колькасць маемасці калгаснікаў. Калгаснікі Дубавец Рыгор і Лаванчук Харытон кінуліся на гарэўшую страху калгаснага свірна і патушылі агонь. Тысячы цэнтнераў калгаснага зярна былі выратаваны. Раённы выканаўчы камітэт прэміраваў Дубаўца і Леванчука. Для падліку страт, нанесеных пажарам, і арганізацыі дапамогі пацярпеўшым была створана спецыяльная камісія.

Невялікая заметка на канкрэтным выпадку ярка паказвае, як змяняецца свядомасць людзей пад уплывам калгаснага ладу. Перш за ўсё калгаснікі кінуліся ратаваць **агульнакалгасную** маемасць і, рызыкуючы жыццём, цалкам выратавалі яе.

Таксама арганізавана ішло тушэнне пажару. Але дарэмна было-б шукаць аб гэтым хоць-бы адзін радок у петрыкаўскай раённай газеце.

Да таго, як здарыўся пажар, «Калгаснік Петрыкоўшчыны» ў кароткіх сігналах змясціў заметку аб тым, што ў вёсцы Жахавічы дрэнна пастаўлена

супроцьпажарная ахова. Пасля пажару, аб якім газета не магла не ведаць, рэдакцыя не толькі не пацікавілася самым выпадкам, але і правільнасцю ўласнага сігналу. Працаўнікі газеты паказалі гэтым сваю выключную тупасць і непаваротлівасць. Між тым, газета магла і павінна была не толькі паведаміць аб факце адданых адносін і гераізму калгаснікаў пры ахове калгаснай маемасці, але на канкрэтным прыкладзе ўзняць увагу калгаснікаў да ўмацавання супроцьпажарнай аховы

Часта сярод інфармацыйнага матэрыялу сустракаюцца дробязныя заметкі надзвычай нізкай якасці. У свой час у «Большэвіцкім друку» паведамлялася аб тым, як дзяржынская газета змяшчае здарэнні. Грамадзянка Сайкоўская ў сваім пашпарце падрабіла год нараджэння, за што была прыцягнута да адказнасці. У аддзеле здарэнняў газета паведаміла аб гэтым, але палічыла неабходным растлумачыць, што «Сайкоўская зрабіла гэта... з мэтай амалажэння(?) сябе для выхаду другі раз замуж». Нядрэнная заметка пэўнага выхаваўчага характару аб недапушчальнасці нядбайных ці злачынных адносін да дзяржаўных дакументаў, цалкам была сапсавана пошлым растлумачэннем.

Ні ў якім разе нельга лічыць, што інфармацыйная заметка толькі паведамляе. Як любая заметка у большэвіцкім друку, яна павінна самім зместам сваім агітаваць, прапагандаваць, растлумачваць, заклікаць. Інфармацыйная заметка вельмі часта можа з'явіцца сігналам для буйнага гаспадарча-палітычнага мерапрыемства. Рабіць інфармацыю трэба вучыцца ў ЦО «Правда». Прывядзем адтуль адзін прыклад.

12 кастрычніка 1935 года япона-манчжурскі атрад перайшоў дзяржаўную граніцу СССР і адкрыў агонь па совецкаму вартавому нараду. У рэзультаце перастрэлкі быў забіт пагранічнік тав. Кацельнікаў. Валенцін Кацельнікаў у раннім узросце страціў маці і разам са сваім стрэчным братам Пятром выхоўваўся ў дзіцячым доме. Цяжкай за ўсіх паведамленне аб смерці Валенціна сустрэў комсамолец Пётр Кацельнікаў — 1914 года нараджэння. Ён рашыў замяніць забітага брата і напісаў аб гэтым заяву народнаму камісару ўнутраных спраў тав. Ягодзе. Тав. Ягода задаволіў яго просьбу і Пётр сабраўся на Далёкі Ўсход. Аб гэтым «Правда» расказала ў нумары ад 26 лістапада.

15 снежня Кацельнікаў прыбыў у Хабараўск і назаўтра выехаў на пагранічную заставу, дзе служыў яго брат («Правда» ад 16 снежня). 20 снежня далёкаўсходні карэспандэнт «Правды» паведаміў аб прыбыцці Петра Кацельнікага на заставу. Цёпла сустрэлі Петра пагранічнікі і ў гэты-ж дзень ён сумесна з іншымі байцамі на заставе імя Валенціна Кацельнікава стаў на ахову далёкаўсходніх рубяжоў сваёй радзімы. Газета паслядоўна вядзе чытача за Петрам Кацельнікавым, выхоўваючы на яго прыкладзе ў кожнага працоўнага вялікае пачуццё гатоўнасці да апошняй кроплі крыві абараняць краіну соцыялізма. Безумоўна, што «Правда» на гэтым не скончыла і яшчэ пакажа Петра Кацельнікава вартым свайго гераічнага брата.

Безумоўна, што ў «Правды» большае поле дзейнасці, і ў моц гэтага, куды большая разнастайнасць тэм. Але раённая газета павінна вучыцца ў «Правды» аператыўнасці, паслядоўнасці і большэвіцкай прынцыповасці. Уважліва сачыць за акружаючым жыццём, правільна, па-партыйнаму высоўваць і ставіць пытанні, даводзіць пачатую справу да канца — вось у чым задача.

Кожная раённая газета можа даваць цікавую разнастайную мясцовую інфармацыю. Для гэтага, апрача матэрыялаў уласных працаўнікоў, трэба шырока скарыстоўваць пісьмы селькораў, рабочых і калгаснікаў, іншыя раённыя газеты і т. д. Сходы, нарады, тэлефон — вось сродкі атрымання інфармацыі. Усё наша выдатнае, чароўнае, заможнае жыццё павінна шырока адлюстроўвацца на старонках раённага друку.

# Нашы знаёмствы

*** **З. ЛОСЕЎ.** ***

**Нам. рэдактара буда-кашалёўскай раённай газеты «Ленінскі шлях»**

Спачатку здавалася нам, што ўсё ў нас у парадку. У рэдакцыю прыходзілі наведвальнікі, пошта прыносіла пісьмы аб калгасных навінах, аб працы сельсовета, школы... На старонках газеты часта змяшчаліся карэспандэнцыі, якія заклікалі раўняцца па перадавіках.

Як быццам усё ў парадку. Але ўдумліва прачытваючы кожны свежы нумар сваёй газеты, мы адчувалі, што нам чагосьці не хапае.

Разабрацца ў нашых недахопах дапамог нам агляд друку ў газеце **«Правда»** за 17 верасня — **«Рэдактар і яго сувязі».** У гэтым аглядзе зусім правільна ўказвалася, што рэдактары і наогул работнікі газет не знаёмы з шырокімі коламі знатных людзей раёна, зусім мала ведаюць жыццё, інтарэсы, імкненні гэтых перадавых людзей нашага часу.

Прачытаўшы гэты агляд, мы зразумелі, што іменна гэта з'яўляецца прычынай таго, што мы самі, работнікі рэдакцыі, незадаволены сваёй газетай.

Мы рашылі выправіць свае недахопы, пачалі шукаць выдатных людзей раёна з тым, каб устанавіць з імі асабістае знаёмства, таварыскія ўзаемаадносіны.

Работнікі газеты сталі часцей выязджаць да больш выдатных брыгадзіраў, старшынь калгасаў, калгаснікаў і калгасніц. Мы сталі часта запрашаць да сябе ў госці ў рэдакцыю гэтых людзей. Пры гэтым мы растлумачвалі кожнаму, з кім знаёміліся, што нас цікавіць простае знаёмства, дружба з ім, што ў нас няма спецыфічнага «слажывецкага» падыходу да знаёмства з людзьмі. «Слажывецкага» ў тым сэнсе, што газетны работнік пазнаёміўся з чалавекам, даведаўся аб тым, што цікавіць газету сёння, і на гэтым канец знаёмству да таго часу, пакуль газеце зноў не спатрэбіцца матэрыял ад гэтага «знаёмага».

Вось прыклад. Брыгадзір калгаса «Гром» тав. **Верачынскі** вядомы ў раёне, як выдатны арганізатар калгаснай вытворчасці. Ён узнагароджан граматай ЦВК БССР за поспехі ў барацьбе за бальшавіцкія калгасы. Чалавек ён скромны, не вельмі любіць пісаць і расказваць аб сваёй працы, аб сваіх поспехах. У рэдакцыі і на старонках буда-кашалёўскай раённай газеты «Ленінскі шлях» таў. Верачынскага сустрэць нельга было. Мы рашылі пазнаёміцца з ім. Паехалі да яго, пабылі ў брыгадзе, на кватэры; а потым запрасілі да сябе ў рэдакцыю, дзе доўга гутарылі з ім аб рабоце, аб яго асабістым жыцці. Праз некаторы час мы яго зноў запрасілі ў госці ў рэдакцыю. Зараз Верачынскі прыходзіць у рэдакцыю, каб расказаць аб сваім жыцці і рабоце, часам звараčаецца за парадай.

**Знаёмства з Верачынскім дало нам магчымасць паставіць у газеце рад цікавых пытанняў барацьбы за павышэнне ўраджайнасці.** Праз Верачынскага мы ўстанавілі цесную сувязь і дружбу з лепшымі стаханаўкамі-ільнотрапальшчыцамі яго брыгады — **Емельяненка** Сынклетай, **Патапенка** Хрысцінай, **Паляковай** Ганнай. Зараз **калгасніцы частыя госці і ў рэдакцыі і на старонках газеты,** дзе яны падзяліліся вопытам сваёй работы.

Аб тым, наколькі цесна завязалася паміж намі і гэтымі выдатнымі калгасніцамі дружба, сведчыць хоць-бы такі факт. На агра-тэхнічнай нарадзе ў калгасе «Гром» выступаў сакратар РК КП(б)Б тав. Маўшовіч, які між іншым паведаміў, што група стаханаўцаў, у тым ліку і Патапенка Хрысціна атрымаюць прэміі. Праз дзень у рэдакцыю прыйшлі Емельяненка Сынклета і Палякова Ганна, якія выказалі нам сваю хвалюючую думку:

— Другім мы-б ніколі не сказалі аб гэтым, вам толькі...—заявілі яны.

Яны былі пакрыўджаны тым, што іх не прэміравалі, у той час як Патапенка, аб прэміраванні якой заявіў сакратар РК КП(б)Б, працавала не лепш за іх. Ніякія нашы парады Паляковай і Емельяненка пайсці і пагаварыць аб гэтым з

раённымі кіруючымі работнікамі не дапамаглі.

— Нам сорамна ісці да іх папрошвацца на прэмію,—заявілі яны.

Мы ім дапамаглі, і ў пастанове аб прэміраванні калгаснікаў-стахаладаўцаў, якая была надрукавана ў газеце, былі прозвішчы і Палякоўай з Емельяненка.

Такіх фактаў можна было-б прывесці многа.

На сходзе, прысвечаным уручэнню калгасу «16-годдзе Кастрычніка» акту на вечнае карыстанне зямлёй (Рагінскі сельсовет), загаварылі аб **вучобе.** Адзін з прысутных таварышоў расказаў аб сям'і калгасніка **Кавалёва** з калгаса «Пролетарый», дзевяць дзяцей якога вучацца, або скончылі сярэднія ці вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Нас гэта зацікавіла. Мы паехалі да Кавалёвых і запрасілі іх прыехаць у рэдакцыю. Да нас прыехала жонка Кавалёва—Ева. Мы акружылі яе вялікай увагай—частавалі абедам, гасцінцамі. Правялі з ёю цэлы дзень і моцна здружыліся. Гэта дружба з Кавалёвай Евай дала нам магчымасць у кастрычніцкім нумары нашай газеты паставіць вельмі цікавае пытанне аб лёсе многасямейнага селяніна-бедняка да Кастрычніцкай рэволюцыі і многасямейнага калгасніка зараз.

Наша **знаёмства з Кавалёвымі** мы рашылі пашырыць. Здабылі адрасы ўсіх дзяцей Кавалёвых, напісалі ім пісьмы, паслалі газету, у якой пісалі аб іх сям'і. У адказ мы атрымалі восем пісем — выдатных чалавечых дакументаў аб вялікім шчасці быць актыўным удзельнікам соцыялістычнага будаўніцтва. Пісьмы гэтыя вельмі цікавыя. Мы іх надрукавалі спецыяльнай старонкай у навагоднім нумары.

Гэта знаёмства мы лічым адным з лепшых нашых дасягненняў. Кола такіх знаёмстваў пашыраецца з кожным днём. Можна было-б многа расказаць аб знаёмстве з выдатным брыгадзірам **Зайцавым, Шэльманскай** Оляй—работніцай соўгаса Рагінь і многімі іншымі. Аднак, досыць і гэтых фактаў для таго, каб зразумець, наколькі гэтыя знаёмствы важны для газеты.

Нельга сказаць, што ў выкананні ўказанняў **«Праўды»** мы зрабілі ўсё магчымае. Трэба шмат яшчэ папрацаваць для таго, каб дабіцца поўнага ажыццяўлення ўказанняў большэвіцкай «Праўды». Але мы настойліва пашыраем наша знаёмства са знатнымі людзьмі соцыялістычнай будоўлі.

# Чаму Кучур не выканаў задання

★ ★ ★ **С. СЯМАШКА.** ★ ★ ★

2 снежня работнік Слуцкай акруговай газеты **«Праўда на рубяжы»** тав. **Кучур Янка** атрымаў ад свайго рэдактара заданне выехаць у Чырвона-Слабодскі раён для арганізацыі матэрыялу ў першы нумар акруговай газеты. Заданне рэдактар даў зусім яснае і канкрэтнае, указаў нават куды, у якую ўстанову зайсці, з кім правесці гутаркі, ад каго і які ўзяць для газеты матэрыял.

Тэрмін для выканання задання быў дан шэсць дзён. Хоць ад Слуцка да Чырвонай Слабады не так ужо лёгка дабрацца, трыццаць пяць кілометраў трэба ехаць фурманкай, але ўсё-ж за шэсць дзён работнік мог з поспехам выканаць дапае яму даручэнне.

Аднак, тав. Кучур не выканаў задання рэдактара. За восем дзён ён не прыслаў у газету ні аднаго радка. Намечанага па плану матэрыялу з Чырвонай Слабады не было ні ў першым, ні ў другім, ні ў трэцім нумарах газеты «Праўда на рубяжы».

Дзе прычына таму, што тав. Кучур не выканаў заданне рэдактара?

Бяда тав. Кучура ў тым, што ён не ўмее арганізаваць свой рабочы час, не ўмее арганізаваць самога сябе. Ён шмат, між іншым, таворыць, многа дарэмна бегае, залішне гарачыцца, а з усяго гэтага вельмі малы рэзультат.

Тав. Кучур прыехаў з заданнем рэдактара ў Чырвоную Слабаду. За якіх-небудзь 30 — 40 мінут ён абегаў тут некалькі раённых устаноў, запісаў набягу ў блакнот сёе-тое і парашыў пайсці ў рэдакцыю раённай газеты пісаць заметкі.

Але пакуль тав. Кучур дайшоў да рэдакцыі, ён, як відаць, забыў пра тое, што думаў усяго некалькі мінут таму назад. Бо прышоўшы ў рэдакцыю, ён ухапіўся за другое — пачаў праглядаць камплект раённай газеты і шукаць, ці няма чаго цікавага ўзяць для акруговай газеты. Але з гэтай справы нічога не вышла.

Раптам Кучур успомніў, што рэдактар даў яму заданне паказаць лепшых ударніц-ільнотрапальшчыц. Для гэтага, вядома, трэба было выехаць у адзін з перадавых калгасаў па выкананню плана здачы дзяржаве ільновалакна.

— Дзе ў вас тут ёсць стаханаўцы ільнаводства? — запытаў ён у работнікаў раённай газеты.

— Здаецца, што ў калгасе імя Войкава ёсць добрыя паказальнікі па ільну.

— Не, лепш бяры калгас «Ленінскі шлях»...

— Самае лепшае — запытаць у райземаддзеле, бо ў нас, у рэдакцыі, няма такіх вестак.

Кучур пайшоў у райземаддзел. Гэта было ўжо на трэці дзень. Намечан быў калгас імя Войкава, які знаходзіцца за 5—6 кілометраў ад раённага цэнтра. Заставалася толькі выехаць у гэты калгас, арганізаваць выступленні лепшых ільнотрапальшчыц і зараз-жа паслаць матэрыял у газету.

Але не вышла так. Ідучы з райземаддзела, Кучур даведаўся, што праходзіць праверка работы чырвонаслабодскай сталоўкі.

«Уключуся ў гэту праверку і пашлю аб сталоўцы матэрыял», — прамільгнула ў думках тав. Кучура. А разам з гэтым выляцеў з галавы намер пабываць у калгасе імя Войкава.

І так тав. Кучур прымаў удзел у праверцы, пасядзеў потым на нарадзе работнікаў сталоўкі і... ні слова не напісаў у газету. У калгас імя Войкава не давялося выехаць.

А час ішоў хутка. Дні беглі адзін за другім так, што Янка Кучур не заўважыў нават, як падкралася 12 снежня і вышлі ўжо тры нумары акруговай газеты «Праўда на рубяжы».

Ясна, што нельга так працаваць, як работнік слуцкай газеты т. Кучур. Нельга сядзець на раёне па 8 — 10 дзён і не даваць адтуль у газету ніякай інфармацыі. Нельга капіць сабе ў блакнот факты і лічбы, а потым, прыехаўшы з камандыроўкі, сядзець тыднямі ў рэдакцыі і «сочинять» заметки аб тым, што калісьці бачыў і чуў, будучы ў камандыроўцы.

Кожны газетны работнік павінен памятаць, што матэрыял яго можа быць каштоўным для газеты толькі ў тым выпадку, калі ён напісаны не з налёту, а дасканала праверany і прытым напісаны своечасова. Усякая інфармацыя каштоўна для газеты толькі ў тым выпадку, калі яна свежая. Старая інфармацыя, як і любы стары матэрыял, зніжае якасць газеты.

Што патрэбна для таго, каб унікнуць тых недахопаў, якія мае ў сваёй рабоце тав. Кучур?

Па-першае, планаваць у рабоце. Выязджаючы на раён, кожны газетны работнік павінен скласці сабе план работы, выходзячы з задання рэдактара, намеціць дзе, калі, з кім і якім чынам ён арганізоўвае матэрыял і калі яго адсылае ў рэдакцыю.

Прыехаўшы на месца — не хапацца за шмат спраў. Пачаў адну работу, давядзі яе да канца, пашлі зараз-жа ў газету.

Зусім зразумела, што ніколі не прадугледзіш планам усяго таго, што можна знайсці на месцы ў калгасе. Таму ні ў якім разе нельга сляпа прытрымлівацца толькі намечанага ў блакноце плана. Усё, што ёсць цікавага і карыснага для газеты, нельга прапускаць, але ўсё трэба рабіць прадумана, сур'ёзна, не слізгаючы па паверхні.

□□□□□

# ПЕРШАЯ СУСТРЭЧА



**У папярэднім нумары нашага журнала мы расказалі аб сустрэчы рэдактароў шматтыражак горада Менска з загадчыкамі прамысловых аддзелаў цэнтральных газет па пытаннях стаханаўскага руху. 22 снежня адбылася сустрэча рэдактароў фабрычна-заводскіх і транспартных шматтыражак горада Менска з загадчыкамі аддзелаў партыйнага будаўніцтва цэнтральных газет. Такая сустрэча адбылася ўпершыню. Спачатку быў зроблен вусны агляд газеты «ВАРАШЫЛАВЕЦ» (завод імя Варашылава). Агляд зрабіла тав. ФРЫД, якая дала наступную ацэнку рабоце газеты:**

— За апошнія тры месяцы «Варашылавец» узняў на сваіх старонках два вялікія пытанні з жыцця партыйнай арганізацыі завода. Першае — аб выкананні камуністамі другога пункту статута партыі і другое—аб рабоце парторгаў. Але і першае і другое пытанне рэдакцыя апрацавала недастаткова. Гэта адбілася і на змесце, і на якасці надрукаваных у газеце матэрыялаў.

9 верасня газета пачала падрыхтоўку да партыйнага дня па пытанню выканання другога пункта статута партыі. Пад «шапкай» **«Шырэй разгорнем падрыхтоўку да партыйнага дня»** змяшчаецца заметка аб сходзе партгрупы ліцейнага цэха. На сходзе рабілі індывідуальную справаздачу камуніст **Гаворка**, які пры чыстцы партыі быў пераведзен у кандыдаты за палітнеграматнасць. У заметцы гаворыцца:

**«За прайшоўшыя пасля чысткі два гады тав. Гаворка не толькі не вырас, але нават і адстае».**

У наступным нумары, што вышаў напярэдадні партдня, газета змяшчае выступленне парторга **Дабравіцкага.** Дабравіцкі расказвае, што:

**«Партгрупа не цікавілася становішчам вучобы, у выніку мы маем зрывы заняткаў».**

Гэтымі двума матэрыяламі газета закончыла абвешчаную ёю-ж «шырокую падрыхтоўку да партыйнага дня». Між тым, калі-б рэдакцыя сур'ёзна падыходзіла да змяшчаемых матэрыялаў, яна знайшла-б дастаткова сур'ёзных сігналаў аб тым, што з партыйнай вучобай не ўсё добра, што і парткому і газеце трэба многа зрабіць, каб наладзіць партыйную асвету. Газета рашыла чакаць схода.

Што-ж сказаў сход? У нумары за 26 верасня, у інфармацыйнай заметцы аб выніках партыйнага схода чытаем:

**«Партсход паказаў, што другі пункт статута партыі многімі камуністамі нашай партыйнай арганізацыі выконваецца дрэнна».**

**«Самасправаздачы кандыдата партыі Лапатухіна (трэцяя група токараў) і члена партыі Лапідуса (слясарны цэх) паказалі, што таварышы Лапідус і Лапатухін мала працуюць над сабою. Лапідус зусім не чытае палітычнай і мастацкай літаратуры. Ён тлумачыць гэта адсутнасцю часу».**

Такім чынам партыйны сход яшчэ раз наглядна паказаў рэдакцыі, што ёй неабходна канкрэтна паставіць пытанне аб становішчы партыйнай асветы. Газета павінна была выявіць, чаму камуністы дрэнна наведваюць школы. Няўжо вінаваты толькі камуністы? Няўжо яны не хочуць выконваць другі пункт статута партыі аб абавязках камуністаў? Ці не вінаваты тут, галоўным чынам, арганізатары вучобы? Газеце неабходна было ўзняць пытанне перад парткомам аб арганізацыі пазменнай вучобы.

Камуніст **Лапідус** спасылаецца на адсутнасць часу для вучобы. Газеце трэба было праверыць, як скарыстоўвае свой час Лапідус. Узяць камуніста, які знаходзіцца ў такіх-жа ўмовах, як Лапідус, і знаходзіць час для работы над сабой, і паказаць іх абодвух у газеце. Гэта было-б павучальна для многіх камуністаў.

Але і тут газета рашыла адмоўчвацца. І пасля заметкі аб выніках партсхода яна на працягу паўтара месяца нічога не сказала аб партыйнай вучобе, аб другіх пытаннях партыйнага жыцця.

Гэтыя факты гавораць аб тым, што газета механічна была ўцягнута ў падрыхтоўку да партыйнага дня. А самастойна весці пытанні, якія былі ўзняты, газета аказалася нядольнай.

Мы ведаем, што комуністы, партыйныя групы і ўся партарганізацыя завода імя Варашылава прарабіла немалую работу ў часе падрыхтоўкі да XVIII гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі, у арганізацыі стаханаўскага руху на заводзе. Але калі судзіць па старонках газеты, то з 26 верасня па 15 лістапада зусім, як быццам, і не было партыйнай арганізацыі на заводзе.

Другое пытанне, якім занялася газета, гэта **пераклічка парторгаў.** 15 лістапада «Варашылавец» абвясціў аб арганізацыі завочнай пераклічкі парторгаў і даў першае слова парторгу слясарназборачнага цэха **Гінзбургу.**

У сваім выступленні парторг Гінзбург скардзіцца:

**«Некаторыя комуністы зусім адарваны ад партыйнага жыцця цэха, напрыклад, кандыдат партыі Чарвякоў ніколі не бывае на цэхавых партсходах».**

Газета абавязана была вывучыць, у чым прычына гэтага адрыву. Магчыма сходы праходзяць не цікава, магчыма ў некаторых комуністаў дрэнныя хатнія ўмовы. Праўда, ніхто не можа апраўдваць комуніста, калі ён не выконвае статут партыі. Але дапамагчы парторгу ў гэтым газета была абавязана.

Далей, Гінзбург скардзіцца:

**«Некаторыя комуністы (Райцэс) адмаўляюцца выконваць нагрузку па той прычыне, што займаюцца ў вячэрніх школах».**

Можа сапраўды для некаторых комуністаў асноўнай нагрузкай павінна быць вучоба? А парторг гэтага не ўлічвае. Можа няправільна размяркоўваюцца нагрузкі сярод комуністаў, не ўлічваюцца іх здольнасці і жаданні? Усё гэта павінна была выявіць газета і дапамагчы парторгу і комуністам.

І трэцяе, на што скардзіцца парторг, гэта:

**«З боку парткома адсутнічае дапамога і кіраўніцтва пры складанні плана работы партыйнай групы».**

Парторг Гінзбург даў цэлую праграму для газеты.

Рэдактар газеты абавязан быў узяць на сябе ініцыятыву і разам з сакратаром парткома пайсці ў цэх да парторга Гінзбурга, пагаварыць з комуністамі аб рабоце партгрупы, выявіць, што іх цікавіць, дапамагчы Гінзбургу скласці план работы, надрукаваць гэты план у газеце і сістэматычна асвятляць, як выконваецца кожны пункт плана.

З такога прыкладнага плана маглі-б узяць што-небудзь карыснага і астатнія парторгі завода. Гэтага газета не зрабіла. Яна не зрабіла для сябе ніякага вываду з сігналаў парторга Гінзбурга. Яна зноў маўчала да 4 снежня.

4 снежня газета змясціла другое выступленне парторга Дабравіцкага. Дабравіцкі гаворыць аб зрухах, якія адбыліся ў сувязі з праверкай партыйных дакументаў, і зноў паўтарае ўсе недахопы, аб якіх ён гаварыў у сваім выступленні напярэдадні партдня 15 верасня. Ён гаворыць, што яшчэ і да гэтага часу некаторыя комуністы дрэнна наведваюць партыйныя заняткі. Гэта безумоўна вынік таго, што газета, як і ўся партарганізацыя, не зрабіла належных вывадаў з тых сігналаў, якія былі яшчэ ў верасні месяцы.

Абвяшчаючы пераклічку парторгаў, газета, як вядома, ставіла сваёй мэтай палепшыць работу партыйных груп. Але чаму газета не прыцягнула да ўдзелу ў пераклічцы другіх комуністаў? Комуністы расказалі-б, што дрэннага ў рабоце партгруп, парторгаў. Гэта было-б вельмі карысна. А «Варашылавец» абмежаваўся толькі выступленнем парторгаў.

У выступленнях парторгаў гаворыцца аб усім і «наогул». Безумоўна было-б лепш, калі-б газета давала выступленні парторгаў дыферэнцыявана па асобных пытаннях. Гэта газета можа яшчэ выправіць, бо пераклічка не скончана.

У газеце малы ўдзел прымаюць радавыя комуністы. За тры месяцы газета змясціла шэсць матэрыялаў аб партыйным жыцці. З іх тры выступленні парторгаў і тры заметкі т. **Дагман**—загадчыка партгабінета.

Не паказаў «Варашылавец» і арганізуючай ролі комуністаў у стаханаўскім

руху. Зусім не прымала газета ўдзелу ў праверцы партыйных дакументаў.

«Варашылавец» яшчэ не стаў баявым арганізатарам і памочнікам парткома ў правядзенні палітыка-выхаваўчай і партыйна-масавай работы. А горш за ўсё тое, што сам партком не навучыўся скарыстоўваць такую моцную зброю, як заводская газета, у сваёй рабоце.

**Пасля агляду загадчыкі аддзелаў партыйнага будаўніцтва цэнтральных газет выступілі з расказам аб вопыце сваёй работы і далейшых мерапрыемствах.**

**Загадчык аддзела партыйнага будаўніцтва газеты «Окцябр» тав. ПАМ расказаў наступнае:**

— Выходзячы з указанняў таварыша **Сталіна** аб узняцці арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычных задач і разгортванні прапаганды і агітацыі бальшавізма, мы будавалі план нашай работы.

У цэнтры сваёй увагі мы паставілі статут партыі, як непарушную аснову нашай партыі і рашучую барацьбу з усякімі праяўленнямі парушэння статута. Адсюль мы выходзілі пры асвятленні ходу праверкі партыйных дакументаў. Практычна гэта азначае барацьбу за ўзняцце бальшавіцкай пільнасці, ачыстку радоў партыі ад класава-варожых элементаў. На старонках газеты мы выкрывалі факты парушэння статута партыі, меўшыя месца ў радзе партыйных арганізацый, як прыём у партыю групамі (што супярэчыць статуту партыі), выпадкі, калі прымалі ў партыю былых бундаўцаў і выхадцаў з іншых буржуазна-нацыяналістычных партый без адпаведнай колькасці рэкамендацый, без зацвярджэння ЦК партыі.

Галоўнае цяпер — гэта замацаванне рэзультатаў, якіх дасягнулі партыйныя арганізацыі пасля праверкі партыйных дакументаў па паляпшэнню арганізацыйнай і партыйна-масавай работы. Асабліва нам трэба змагацца з самасупакоенасцю, якая наглядаецца ў некаторых партыйных арганізацыях.

Павысіць бальшавіцкую пільнасць, узняць тэарэтычны ўзровень кожнага партыйца, захаваць ва ўзорным парадку гаспадарку нашага ўласнага партыйнага дома—вось задачы, якія стаялі і стаяць перад намі.

Па ходу праверкі партыйных дакументаў мы не толькі ачысцілі нашы рады ад класава-чужых элементаў, але выявілі новы актыў. Пытанне рэзерву вельмі важнае пытанне. Трэба дапамагаць таварышам у рабоце, знішчыць труднасці, якія яны сустракаюць на шляху, правільна выкарыстаць новыя партыйныя кадры.

Мы мала ўдзяляем увагі нашым прапагандыстам. Гэта вялікі недахоп. Калі справа прапаганды хоць зусім недастаткова, але ўсё-ж асвятляецца на старонках нашага цэнтральнага і фабрычна-заводскага друку, то аб нашай агітацыі амаль зусім нічога няма.

Агітатары і чытчыкі ва многіх выпадках не зацвярджаюцца парткамітэтамі і таму сустракаюцца сярод іх непадыходзячыя і ў асобных выпадках чужыя элементы. Прапагандыстам не даюць сістэматычнай кансультацыі. Мы павінны памятаць, што агітатары і чытчыкі дапамагаюць давесці важнейшыя пастановы партыі і ўрада да шырокіх мас рабочых. Пастанова ЦК ВКП(б) аб Балахнінскім камбінаце датычыць у поўнай меры і нашых прадпрыемстваў, і мы з гэтага павінны зрабіць адпаведныя вывады.

Важнейшая наша задача цяпер—дапамагаць разгортванню стаханаўскага руху, паказваць кіруючую ролю партарганізацый у стаханаўскім руху, авангардную ролю партыйцаў і камсамольцаў.

Мы павінны больш дапамагаць камсамолу. Асабліва шырока неабходна асвятляць перабудову камсамольскай работы, згодна ўказанняў таварыша **Сталіна,** дапамагчы правесці справаздачна-перавыбарчую кампанію і падрыхтоўку да X усесаюзнага і XI беларускага з'ездаў камсамола на высокім прынцыповым узроўні.

**Намеснік загадчыка ад дзела партыйнага будаўніцтва газеты «ЗВЯЗДА» тав. ГЛЕЗЕР расказаў аб рабоце аддзела і яго плане:**

— Аддзел партыйнага будаўніцтва **«Звязды»** ў сваёй рабоце ўзяў кірунак на распрацоўку асобных дэталей з усёй сумы задач партыйнага будаўніцтва.

Перад намі стаяць чатыры асноўныя вузлавыя пытанні, з якіх ні аднаго ўпусціць нельга. Гэта, па-першае, пытанні арганізацыйнага парадку; па-другое, пытанні агітацыі і прапаганды; па-трэцяе, пытанні партыйных кадраў і, чацвертае, пытанні комсамола.

Таму ў сваёй рабоце нам прыходзіцца, і гэта зусім натуральна, выбіраць асноўнае, не распыляцца, а на канкрэтных, часамі, з першага погляду дробных, прыкладах узнімаць вялікія пытанні ў усёй тэхніні партыйнага будаўніцтва.

Мы азнаёміліся з работай комуністаў адзіночак у горадзе. Гэта азнаямленне нам паказала, што адзіночкі адарваны ад партыйнага жыцця, не атрымліваюць жывога канкрэтнага кіраўніцтва. На прыкладзе комуністаў, якія працуюць у гандлёвай сетцы, мы ўбачылі неадпаведнасць сістэмы работы з адзіночкамі з задачамі партыі на сучасным этапе і паставілі пытанне аб перабудове гэтай сістэмы.

Безумоўна, гэта датычыць і сельскіх комуністаў. Трэба змагацца з штучным насаджэннем адзіночак. Там, дзе па статуту партыі можна аб'яднаць комуністаў у пярвічныя, вытворча-тэрытарыяльныя арганізацыі, там гэта неабходна зрабіць.

Вялікае значэнне для кожнай партыйнай арганізацыі мае планавасць у рабоце і праверка выканання. Таму мы ўзялі план адной партыйнай арганізацыі і на старонках газеты паказалі, наколькі канкрэтны гэты план, і затым прасачылі, як гэты план выконваецца. Гэты матэрыял нам паказаў, што чоткай, прадуманай сістэмы праверкі выканання ў большасці пярвічных партыйных арганізацый яшчэ няма, а без такой сістэмы праверкі выканання працаваць нельга.

Ці пытанне аб кандыдатах. Мы прыследзеліся да групы кандыдатаў—як яны растуць, што яны сабой уяўляюць, ці гатовы яны стаць сапраўднымі членамі партыі. Гэта азнаямленне нам паказала, што з кандыдатамі партыі працуюць недастаткова, яны ў асобных выпадках (знаходзячыся ў партыі 3—4 гады) недастаткова выраслі, каб стаць членамі партыі. Значыць, газетам неабходна ўзняць пытанні аб кандыдатах, спачуваючых, аб рабоце з імі на больш высокую прынцыповую вышыню з тым, каб час, які астаўся да аднаўлення прыёму ў партыю, быў выкарыстан для лепшай падрыхтоўкі кандыдатаў, для найлепшага ўцягнення іх у агульна-партыйнае жыццё.

З пытанняў агітацыі і прапаганды асаблівую ўвагу мы звароачалі і звараічаем на прапагандыста—рашаючую фігуру ў партыйнай прапагандзе. У матэрыялах **«Заняткі скончыліся»... а далей?»** мы паказалі, што заняткі партыйнай школы па сутнасці канчаюцца са сканчэннем навучальных гадзін, а гэта ненармальна. Бальшэвік-прапагандыст не можа абмяжоўвацца гэтымі гадзінамі і быць проста лектарам, які прыходзіць на лекцыю, чытае па праграме і гэтым абмяжоўваецца. Бальшэвік-прапагандыст павінен быць непарыўна звязан са сваімі слухачамі, ведаць іх быт, іх жыццё, працягваць сваю работу партыйнага прапагандыста ў цэху, на кватэры рабочага. Таксама востра стаіць пытанне прапаганды ў комсамоле. Максімум увагі неабходна аддаць выхаванню комсамольцаў у духу бальшэвізма, праверцы таго, каму даручана гэта адказнейшая работа партыйнай прапаганды сярод моладзі.

У галіне разгортвання стаханаўскага руху нам неабходна ў друку асабліва моцна ставіць пытанне аб глыбокай прапагандзе ў рабочых масах ідэй таварыша **Сталіна,** выказаных у прамове на нарадзе стаханаўцаў, дабівацца глыбокага разумення гістарычнага значэння стаханаўскага руху ўсімі комуністамі і беспартыйнымі рабочымі і на гэтай аснове разгортваць стаханаўскі рух «ушыр і ўглыб».

Некалькі слоў аб статуце партыі. Трэба праз газету прывіваць членам і кандыдатам партыі непахіснае разуменне, што статут партыі—аснова партыйнага жыцця, што нельга мірыцца хоць з малейшымі парушэннямі статута.

Таму мы на старонках «Звязды» паказваем, як у асобных арганізацыях выконваюць статут партыі па асобных пунктах, прычым, у адрозненне ад іншых матэрыялаў, мы ў цэнтры ўвагі ставім самога комуніста, як ён, незалежна ад абставін і ўмоў, выконвае ўсе пункты статута. Па нашай думцы, гэта правільна і так трэба ставіць гэта пытанне.

У далейшым мы думаем узняць яшчэ рад пытанняў, напрыклад, аб кругазоры партыйнага работніка, аб вучобе актыва, аб гаспадарніку, як комунісце, аб маралі і этыцы комуніста, аб рабоце з беспартыйным актывам, аб партыйнай ячэйцы і яго газеце, аб унутрыпартыйнай інфармацыі і рад іншых.

Галоўнае, што ўсім нам трэба зразумець,—гэта жыць жыццём усёй партыі, штодзенна адчуваць біццё пульса партыйнага жыцця, цясней звязвацца з масамі комуністаў, беспартыйных рабочых і калгаснікаў, вучыцца ў іх і дапамагаць ім.

Толькі тады газета не адстане ад жыцця, толькі тады кожны газетны работнік будзе сапраўдным журналістам-большэвіком.

**Разгарнуліся спрэчкі. Першае слова ўзяў рэдактар газеты «ВАРАШЫЛАВЕЦ» (завод імя Варашылава) тав. ФЕЛЕР:**

— Часта мы ходзім у рэдакцыі цэнтральных газет, каб даведацца, аб чым і як пісаць, але не заўсёды гэта ўдаецца. Калі я сёння заслухаў вусны агляд нашай газеты, мне стала ясна, што шмат чаго мы недарабілі. Мы пачалі надрэнную справу — перакліčку парторгаў, але не змаглі гэта як след арганізаваць.

Праслухаў я загадчыкаў аддзелаў партыйнага будаўніцтва цэнтральных газет і трэба сказаць, што зараз нам, рэдактарам, ёсць над чым падумаць, ёсць і перспектывы ў далейшай рабоце. Такія сустрэчы значна палепшаць работу заводскай газеты. Але трэба тут, на нашай сустрэчы, сказаць, што мы, рэдактары большасці заводскіх газет Менска, маем зусім малую асвету, і таму неабходна наладзіць сістэматычную вучобу рэдактароў. Тут гаварылі, што для таго, каб пісаць аб партыйнай школе, трэба прыйсці ў школу і праверыць якасць вучобы. Гэта зусім правільна, але для гэтага патрэбна рэдактарам быць добра марксісцка-ленінскі падкаванымі. Трэба, таварышы, усё-ж падумаць адносна вучобы рэдактароў.

**За ім выступіў тав. МІНКІН—рэдактар газеты «РАБОЧАЕ ВОКА» (завод «Большэвік»)**

— Феле̣ру, можна сказаць, пашанцавала, што вусны агляд па пытанню партыйнага жыцця зроблен па газеце, якую ён рэдагуе. Я арганізаваў у сваёй газеце завочную партканферэнцыю і для мяне быў-бы вельмі каштоўным такі агляд; праўда, указанні «Варашылаўцу» ва многім датычаць і маёй газеты.

Мы яшчэ не вывучылі пытанне, як працуе комуніст над узняццем свайго ўзроўню, і не змаглі як след паставіць гэта пытанне на старонках газеты. Загадчыкі партыйных аддзелаў «Звязды», «Рабочего» і «Окцябра» расказалі нам аб іх рабоце. Мы можам пераняць частку іх вопыта. Узяць хоць-бы такое пытанне, як «Заняткі скончаны... а што далей?». Гэта, мне здаецца, будзе вельмі цікавым пытаннем для нашых газет. Трэба тут прама заявіць, што гэтыя сустрэчы даюць нам вельмі многае. Але патрэбна, каб нашы цэнтральныя газеты часцей змяшчалі агляды фабрычна-заводскіх газет па пытаннях партыйнага жыцця.

**Слова ўзяў рэдактар газеты «ЧЫРВОНЫ ЧЫГУНАЧНІК» (паравознае дэпо) тав. СТРЭЛЬЧАНКА.**

Па пытанню праверкі партыйных дакументаў мы мала пісалі, а гэта не позна яшчэ і зараз. Мне хочацца тут сказаць, што трэба, каб і сакратары парткомаў і парторгі прыходзілі на такія нарады. Сёння запрашалі сакратароў парткомаў і, не гледзячы на важнасць пастаноўкі пытання, усё-ж з іх ніхто не з'явіўся. А гутарка ідзе аб рабоце шматтыражак, якія з'яўляюцца органамі парткомаў на нашых прадпрыемствах.

**У спрэчках выступілі яшчэ рэдактар газеты «Соцыялістычны канцэр» (фабрыка «КІМ») тав. ЦЫРКІНА і рэдактар шматтыражкі «Молатавец» (завод імя Молатава) тав. ФРЫДМАН. Тав. Фрыдман заявіў:**

— Толькі трэці месяц працую я рэдактарам «Молатаўца».

«Молатавец» асвятляе партыйнае жыццё вельмі слаба. Нас ніхто не турбуе, не дае практычных указанняў, як працаваць, а намі, мне думаецца, патрэбна займацца, нас трэба вучыць.

***

Так прайшла гэта першая сустрэча.



НА ДАРОГАХ БССР



Адзін з узорна афармленых участкаў дарогі.

# Комуністы аб сваёй газеце

*** Х. РАСКІНА ***

Пры жаданні кожная газета можа лёгка высвеціць ці задавольвае яна чытача, што яго цікавіць. Для гэтага праводзяцца канферэнцыі чытачоў, у газетах арганізуюць трыбуны чытача і інш. Галоўнае, каб было жаданне рабіць газету лепш. Гэтага жадання ў рэдакцыі газеты завода імя Варашылава «Варашылавец», на жаль, не было, гэтымі пытаннямі яна не займалася.

Мы зацікавіліся думкай комуністаў завода аб сваёй газеце. Пагутарылі і выявілі, што комуністы не задаволены тым, як газета асвятляе пытанні партыйнага будаўніцтва. Дамо слова ім.

***

Сакратар партыйнага камітэта тав. **Тышко** абвінавачвае газету ў тым, што яна несістэматычна вядзе пытанні партыйнага будаўніцтва.

— Газета заняласяя арганізацыяй пераклічкі цэхавых парторгаў. Справа цікавая, добрая, але ў газеце не хапае сістэмы. Гэта каштоўнае мерапрыемства вядзецца без глыбокага вывучэння пытанняў, мала комуністаў прыцягнута да ўдзелу ў пераклічцы. Гэта можна і трэба выправіць.

Фабрычна-заводская газета павінна на сваіх старонках умець узнімаць і ставіць паасобныя пытанні перад заводскай партыйнай арганізацыяй. Наша газета ўнутрыпартыйныя пытанні ставіць у парадку інфармацыйным, агляднымі. Праўда асобныя пытанні газета асвятляе нядрэнна. Змяшчаюцца матэрыялы аб партыйных сходах, аб партыйнай вучобе і т. д. Але няма такіх пытанняў партыйнага жыцця, якія-б газета ўзнімала і ставіла перад парткомам і гэтым самым дапамагла-б нам у рабоце.

Наша газета піша аб вучобе паасобных комуністаў, як яны наведваюць заняткі, што прапрацоўваюць і т. д. Але няма паказу работы хоць-бы аднаго гуртка, як усвойваюцца матэрыялы, як працуе кіраўнік гуртка. Гэта дало-б многа іншым гурткам у пераймапні вопыту і знішчэнні недахопаў, дапамагло-б парткому і парторгам у кантролі за работай гурткоў.

Газета да гэтага часу не займалася асвятленнем быту комуністаў, а гэта надзвычайна важнае пытанне. Як комуніст жыве дома, як выхоўвае



**Тав. Тышко — сакратар партыйнага камітэта менскага машынабудаўнічага завода імя Варашылава.**

сваіх дзяцей, як і на што выкарыстоўвае свой вольны час,—гэта павінна знайсці сваё месца на старонках газеты. Я патрабую ад газеты большага паказу авангарднай ролі комуніста ў стаханаўскім руху.

***

Парторг слясарназборачнага цэха тав. **Гікзбург** прад'яўляе свой рахунак газеце:

— Я парторг цэха, у якім працуе некалькі брыгад. Я жадаю лепш паставіць партыйна-масавую работу ў брыгадзе, але не ведаю як. Раюся з сакратаром парткома, з асобнымі комуністамі, што-небудзь вычэрпваю з пераклічкі парторгаў, якая праводзіцца нашай га-



**Стварыць у газеце аддзел: «Што чытаць прапагандысту»—такое патрабаванне прад'яўляюць сваёй шматтыражцы прапагандысты. НА ЗДЫМКУ: прапагандыст т. Гельфанд.**



**Змяшчаць на старонках газеты абагульняючыя агляды аб міжнародным жыцці, паказваць жыццё і вучобу маладзі — такое патрабаванне да сваёй шматтыражкі прад'явілі комуністы, рабочыя завода імя Варашылава.**

**НА ЗДЫМКУ: тав. Лапідус, комуніст, рабочы завода.**

зетай. Але там няма паказу, як трэба паставіць партмасавую работу ў паасобнай брыгадзе, каб можна было пераняць вопыт работы. Гэтым пытаннем газета павінна заняцца неадкладна.

Газета мала паказвае **вопыт** работы. Трэба больш вучыць людзей на добрым вопыце. Было-б пажадана, каб газета паказала вопыт адной партгрупы, у якой добра пастаўлена работа. Гэта было-б вельмі карысна.

***

Даем слова прапагандысту тав. **Гельфанду:**

— Я, як прапагандыст, атрымліваю шмат партыйнай літаратуры. Усяго за раз не прачытаеш. Пажадана было-б, каб у газеце быў такі аддзел: «Што чытаць прапагандысту ў першую чаргу». Гэту работу рэдакцыя можа весці разам з партгабінетам. Нам, прапагандыстам, гэта дасць вялікую карысць. У нас шмат навін мастацкай літаратуры, многа кніг. Але што чытаць у першую чаргу — цяжка разабрацца. Чаму-б газеце не завесці маленькі бібліяграфічны аддзел з указаннем, якую літаратуру прачытаць? Гэта-ж каштоўна было-б для ўсяго рабочага калектыва.

Яшчэ адно патрабаванне газеце—паказаць вопыт работы прапагандыста.



**Парторг слясарна-зборачнага цэха менскага машынабудаўнічага завода імя Варашылава тав. Гінзбург.**



Па маёй думцы, трэба наладзіць абмен вопытам паасобных прапагандыстаў завода на старонках газеты. Гэта дасць падвойную карысць; прапагандыст скарыстае лепшы вопыт работы, а партарганізацыя і ўвесь рабочы калектыў будуць ведаць, як і чым займаюцца напы прапагандысты.

**
*

Комуніст, рабочы завода тав. **Лапідус** патрабуе ад газеты зьмяшчэння абагульняючых матэрыялаў аб міжнароднай палітыцы.

— Матэрыялы міжнароднай палітыкі, кажа ён,—газета дае, але часта паасобныя матэрыялы зьмяшчаюцца са спазненнем, аб падзеях раней прачытаеш у цэнтральных газетах. Ад нашай газеты патрабуецца задача абагульняючых матэрыялаў.

Кожны комуніст адказвае за выхаванне свайго дзіцяці.

Тав. Лапідус патрабуе ад газеты, каб яна асвятляла вучобу дзяцей рабочых завода, клопаты бацькоў аб сям'і.

**
*

Усе патрабаванні досыць сур'ёзныя. Сакратар парткома патрабуе ад газеты сістэматычнага вядзення партыйнага аддзела. Наш друк — самая вострая зброя партыі і сваю ролю калектыўнага арганізатара, прапагандыста і агітатара друк павінен адыграць і ў пытаннях партыйнага жыцця. Каб стаць сапраўдным дапаможнікам партыйнай арганізацыі, газеце трэба сістэматычна і сур'ёзна займацца пытаннямі партыйнага будаўніцтва.

———□□□□□———

# Замежныя рабкоры
## аб стаханаўскім руху у СССР

*** **Д. СНЕЖКО.** ***

**(Па пісьмах замежных рабкораў, атрыманых на мове эсперанто)**

Стаханаўскі рух у СССР выклікаў вялікі водгук за межамі.

Пісьмы, якія прыходзяць да нас ад рабкораў замежных комуністычных і рабочых газет, расказваюць аб тым, як горача сустрэлі замежныя рабочыя весткі аб стаханаўскім руху ў СССР.

«Мы чыталі ў нашых газетах,—піша рабочы абутковага цэха Паўночна-брытанскай каўчуковай фабрыкі **А. Р.** —рабкор англійскай газеты **«Дэйлі-Уоркер»**, — аб новых вытворчых рэкордах, пастаўленых рабочымі ў вашай краіне. Мы чыталі з радасцю, што гэтыя рэкорды ператварыліся ў рух за ўзняцце прадукцыйнасці працы—працы свабоднай, соцыялістычнай, гераічнай і радаснай.

«Гэты рух будзе ў вас мець посьпех. У нас узняцце прадукцыйнасці на капіталістычных прадпрыемствах азначае новыя жахі, новае закабаленне. На нашай фабрыцы 10-гадзінны рабочы дзень. З-за капіталістычнай рацыяналізацыі з 12 рабочых у цэху засталося толькі 3. Раней мы выпускалі 16 пар бацінак у дзень. Зараз тарыфы на здзельную работу зрэзаны да мінімуму. Матэрыял, што даюць нам у работу, нізкай якасці. Таму ўсё больш і больш робіцца цяжкім зарабіць столькі, каб хапала на жыццё. Прадукцыйнасць узрасла з 16 пар у дзень да 38 пар, а заработак знізіўся.

«За тыдзень я зарабіў 29 шылінгаў, хоць і рабіў па 33 пары бацінак у дзень, а апрача таго працаваў звыштэрміна́ва да 6 гадзін 30 мінут увечары. Часта пасля такой работы я не мог не плакаць, рукі і ногі дрыжаць.

Увядзенне новай сістэмы «БЭДО» і пастаяннае панукан́не рабочых начальнікамі цэхаў, дзікая нечалавечая эксплаатацыя—такая праца ў нас. Рост прадукцыйнасці ў нас ідзе за кошт нечалавечых намаганняў рабочых. Капі-

талізм хоча выціснуць усе сокі з рабочых. Другое ў вас. І я вітаю гэты новы рух за высокую прадукцыйнасць соцыялістычнай працы».

Замежныя рабкоры выкрываюць дзікую хлусню буржуазных газет, якія прабуюць «даказаць» рабочым, што нібыта стаханаўскі рух цягне за сабою беспрацоўе і голад.

«Наіўная хлусня, — піша парыжскі рабкор **Жан Эскот.** — Хто параўнае рацыяналізацыю ў СССР з капіталістычнай рацыяналізацыяй? У нас рацыяналізацыя — гэта дзесяткі, сотні тысячы новых беспрацоўных, гэта зніжэнне зарплаты, гэта яшчэ больш жудасная эксплаатацыя чалавека.

У вас-жа рабочыя працуюць для сябе. Больш выпусцяць прадукцыі, больш яе будзе на рынку, больш атрымаюць рабочыя. Расце і зарплата, зніжаюцца цэны на прадукты».

Замежныя рабочыя ведаюць, што велізарным поспехам, якія мае Совецкі Саюз, совецкія рабочыя абавязаны партыі Леніна—Сталіна і яе вялікаму правадыру тав. Сталіну. Вось што піша парыжскі **рабкор Врога:**

«Мы бачым, як сярод хаосу капіталістычнай сістэмы, сярод беспрацоўя, голаду і жабрацтва стаіць, як маяк, краіна Советаў, якая не ведае ні беспрацоўя, ні голаду, ні жабрацтва, ні крызісаў. Там, наадварот, з кожным днём усё лепш жыве рабочы, калгаснік, там не выганяюць рабочых з завода, а, наадварот, уцягваюць усё новых рабочых, там будуюць яслі, дзіцячыя сады, сталовыя.

І мы разумеем, што гэтымі поспехамі, якіх дабіўся СССР за 18 год, рабочыя і калгаснікі абавязаны правільнаму кіраўніцтву партыі большэвікоў, якую вёў раней вялікі правадыр рабочых усіх краін Ленін, якую вядзе цяпер яго верны саратнік Сталін. Пад гэтым кіраўніцтвам партыя змяла з шляху ўсіх, хто перашкаджаў будаўніцтву соцыялізма ў вашай краіне. Змецены з шляху трацкісты—здраднікі рабочага класа, найміты і служкі фашызма, змецены апартуністы розных масцей. Партыя маналітна і цвёрда, як граніт. І яна, маючы на чале такога чалавека, якім танарышча не толькі пролетарыят СССР, але пролетарыят усяго зямнага шара, мы ўпэўнены, прыдзе да бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Сталін — гэта сцяг перамог. Сталін—гэта сцяг комунізма».

Буржуазны друк прабуе падарваць узрастаючыя сімпатыі замежных рабочых, сялян, працоўнай інтэлігенцыі да Совецкага Саюза. Але, не глядзячы на ўсе перашкоды, замежныя рабкоры адбіваюць атакі друхвасняў капітала, растлумачваюць масам сапраўднае становішча ў СССР. Пяро замежнага рабкора—гэта вінтоўка ў барацьбе з класавым ворагам. Гэтай вінтоўкай замежны рабкор абараняе сваю соцыялістычную радзіму—Совецкі Саюз. Ён падрыхтоўвае новыя сілы да вялікіх рашаючых баёў з капіталізмам.

———□□□□□———

# Змест

Стар.

**Перадавы:** На парозе новага года 1

АГЛЯДЫ ДРУКУ

Важнейшы ўчастак работы 5

«На сходах выбралі комсоргаў» 6

Няма паказу жывога чалавека 8

Не газета, а шэры бяззубы бюлетэнь 10

АРТЫКУЛЫ

**Міхайлаў.** — Мясцовая інфармацыя ў раённай газеце 12

**З. Лосеў.** — Нашы знаёмствы 14

**С. Семашко.** — Чаму Кучур не выканаў задання 15

Першая сустрэча 17

**Х. Раскіна.** — Комуністы аб сваёй газеце 23

**Д. Снежко.** — Замежныя рабкоры аб стаханаўскім руху ў СССР 25

**Выдавецтва ЦК КП(б)Б «Звязда».** **Тэхрэдактар А. Матусевіч.**

Менск, друк. «Звязда». Зд. у набор 27-XII 35 г. Падп. да друку **15-I 36 г.** Тыраж 940 экз. $1^3/_4$ друк. арк. У арк. 75.000 экз. Уп. Галоўлітбела **№ 5052.**

